

IX Бульбафэст у Ліпінах→4

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714


Памяць пра жыдоў→9

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 38 (3306) Год LXIV Беласток, 22 верасня 2019 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


Тэкст і фота **Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

# Так набліжалася вайна

## Размова з прафесарам **Яўгенам МІРАНОВІЧАМ** з Універсітэта ў Беластоку.

**— Які ўплыў на выбух Другой сусветнай вайны мелі вынікі Першай сусветнай вайны, Версальскія і Рыжскі дагаворы?**

— У еўрапейскай гістарыяграфіі ёсць погляд што Версальскі дагавор ствараў асновы для чарговага канфлікту. Еўрапейскія праблемы былі так уладкаваныя, што найбольшыя краіны, як Нямеччына ці Расія, не былі гэтым задаволены. Але калі вызначыць дату пачатку Другой сусветнай вайны, то кожны народ бачыць яе па-іншаму. Для чэхаў цалкам абгрунтаванай датай з'яўляецца верасень 1938 года, калі са згоды саюзнікаў наступіў падзел Чэхаславакіі паміж Нямеччыну, Венгрыю і Польшчу; Польшча сама ўзяла ўдзел у гэтым падзеле. Для чэхаў гэта чорная дата ў іхняй гісторыі. Для палякаў, вядома, пачалася вайна 1 верасня, для шматлікіх народаў Савецкага Саюза гэта 21 чэрвеня 1941 года. Амерыканцы адзначаюць гэта 7 снежня 1941 года — гэта для іх пачатак вайны. Ніхто ў нас не прыглядаецца, як гэта бачыцца народамі Азіі, напрыклад. У кітайскай гістарыяграфіі гэта 1931 год, японская агрэсія — самая чорная дата; няма ніякага сумнення, што пачалася трагедыя кітайскага народа, пачатак вялікай трагедыі, калі японцы адарвалі паўночна-ўсходнюю частку гэтай краіны і стварылі марыянетачную дзяржаву Маньчжоу-го. Калі глянем у нейкі куток свету, там інакш гэта разглядаюць. Скажам, у Індакітаі, у Інданезіі, зусім па-іншаму глядзяць на гэты агульнасусветны канфлікт. Некаторыя народы нават не разглядаюць агрэсію Японіі на тыя тэрыторыі як агрэсію, толькі як вызваленне з-пад акупацыі еўрапейскіх імперый.

**— А ў нас канкрэтна: якую ролю адыгрывала г.зв. рыжская мяжа, але не толькі рыжская, бо ж і Памор'е ці, як гэта немцы называлі Вартэнланд — Велькапольска, таксама не па душы немцам дасталіся Польшчы.**

— Пачнем з рыжскай мяжы. Яна была вымушана на савецкай Расіі вынікам польска-савецкай вайны. Але ў Расіі яе ў сапраўднасці ніколі на адобрылі. Падпісалі з Польшчай усялякія дагаворы пра мірнае суіснаванне, але складана знайсці нейкае адабрэнне рыжскай мяжы. І ўся дзейнасць Савецкага Саюза была накіравана на тое, каб змяніць гэты тэрытарыяльны кшталт. Ці царская Расія, ці савецкая Расія — пагаджаліся на этнічныя межы; тое, што сёння называецца Рускім мірам — Украіна і Беларусь у межах маскоўскага цэнтра. На захад ад яго магла быць Польшча. І керзанская лінія, якую вызначыла камісія Лігі нацый пад кіраўніцтвам брытанскага палітыка, поўнасцю супадала з пунктам гледжання маскоўскага палітычнага цэнтра. Калі гаварыць пра рыжскую мяжу, то яна стварала добрыя магчымасці ўплыву на сітуацыю ў Польшчы з боку Савецкага Саюза. Тут было пяць мільёнаў украінцаў, два мільёны беларусаў. Зразумела, што сярод украінцаў і сярод беларусаў так ці інакш ілёк было знайсці сілы, якія думалі пра сепаратызм, пра адрыў ад Польшчы. Тым больш, што спрыяла таму і польская палітыка ў адносінах да нацыянальных меншасцей, зусім незразумелая, накіраваная на асіміляцыю,



канцэпцыя спозненая прынамсі на сто гадоў. Яшчэ ў XIX стагоддзі можна было разважаць нешта такое як асіміляцыя і дзяржаўнымі сродкамі купіць прыхільнасць нейкіх этнічных рухаў. Але пасля Першай сусветнай вайны, калі праз Усходнюю Еўропу правалілася хваля нацыяналізмаў, гэта стала немагчымым. Перш за ўсё, так украінцы, як і беларусы рабілі спробы стварыць сваю дзяржаву; украінцы нават далёка пайшлі — стварылі арміі, якія змагаліся за гэту дзяржаву. У беларусаў гэта горш атрымалася; усё такі была спроба стварэння дзяржавы. Ідэя сваёй дзяржавы ўжо існавала, яе не праігнаравалі нават бальшавікі, ствараючы Беларускую Савецкую Сацыялістычную Рэспубліку. І таму, менавіта, лёгка было ўплываць на настрої сярод грамадства і беларускага, і украінскага ў Польшчы з боку савецкага кіраўніцтва; гэтыя ўплывы заўсёды былі, так ці інакш. Крыху інакш гэта выглядала ў настроях на Беларусі і Украіне, аднак цягам міжваеннага двaццацігоддзя былі вялікія магчымасці ўплыву.

Калі гаварыць пра заходнія межы Польшчы, то трэба сказаць, што Веймарская Рэспубліка ніколі не прызнала існавання Польшчы ў такіх межах; нямецкая прапаганда гаварыла пра Польшчу як пра часовую дзяржаву. У Веймарскай Рэспубліцы існаваў рэвізіянізм з пачатку да канца. Калі падпісалі дагавор пра гарантыю заходніх межаў Нямеччыны ў Лакарна ў 1925 годзе, Германія гарантавала межы Францыі і Бельгіі, але не было ніводнай згадкі, што ёсць гарантыі межаў з Польшчай. У 1925 годзе сусветнае грамадства моўчкі прыняло да ведама, што Нямеччына будзе змагацца за змену сваіх усходніх межаў. Калі да ўлады дайшоў Гітлер, ён меў іншую канцэпцыю — у 1934 годзе дайшло да пагаднення паміж Польшчай і Нямеччынай; Германія прадбачвала, што Польшча будзе ўваходзіць у нямецкую зону ўплываў. Так гэта нават на Захадзе разглядалі, што Польшча стане сферай нямецкіх уплываў. Польшча ніколі не пайшла так далёка, каб лічыць яе нямецкай зонай. Так гэта аднак бачылася, асабліва ў 1938 годзе, калі Польшча далучылася да нямецкіх тэрытарыяльных змен у Чэхаславакіі. У 1938-1939 гадах была яшчэ нямецкая прапанова Польшчы за невялікія тэрытарыяльныя ўступкі далучыцца і стаць сатэлітам Нямеччыны, так як стала Венгрыя, далей Румынія, Балгарыя, і харваты, якія вельмі імкнуліся адарвацца ад Югаславіі і шукалі саюзу з Нямеччынай.

Яшчэ адна справа, якую варта заўважыць: усе меншыя народы незадаволеныя вынікамі Першай сусветнай вайны, якім не ўдалося збудаваць сваіх дзяржаў, напрыклад украінцы, таксама беларусы, глядзелі на Берлін. Украінскія нацыянальныя дзеячы з палловы 1930-х гадоў разглядалі гэты варыянт — Нямеччына была для іх надзеяй. Калі прагледзець тую ўкраінскую прэсу, якая легальна выходзіла ў Польшчы, у 1938-1939 гадах усе прамовы Гітлера былі перакладзены на ўкраінскую мову і публікаваліся ў газетах; там надзея на Нямеччыну была вялікая. І беларускія дзеячы з Польшчы, якія спачатку быццам супрацоўнічалі з польскай уладай, як Акінчыц, Казлоўскі, у канцы 1938 і пачатку 1939 года шукаюць кантактаў з Берлінам. Там іх ахвотна прымаюць, там з імі ахвотна гавораць. Немцы мелі сваю канцэпцыю — яна супадала са спадзяваннямі і з боку беларускіх дзеячаў. Практыка палітыкі ў Польшчы і Савецкім Саюзе некаторым падказвала, што калі працягнецца перыяд асіміляцыі ў Польшчы ці сталінскай палітыкі ў Беларусі, то беларусы папросту знікнуць як беларуская супольнасць — станучь часткай польскай ці расійскай нацы, затрацяць сваю культурную адметнасць — такія былі высновы назірання палітыкі ў Польшчы ці ў Савецкім Саюзе. Варта прыгадаць, што ў Савецкім Саюзе пасля пэўнага эксперыменту з беларусізацыяй у 1920-х гадах, у канцы 1930-х гадоў папросту вымардавалі фізічна ўсю нацыянальную эліту; 90% беларускіх пісьменнікаў і вучоных тады загінула. Таму такія высновы, каб шукаць саюзніка. Не бачылі беларускія ці ўкраінскія дзеячы такіх саюзнікаў на захадзе Еўропы; там шукалі кантактаў з Савецкім Саюзам, з Гітлерам. Заходнія дэмакраты адобрылі ліквідацыю аўстрыйскай дзяржаўнасці, ліквідацыю чэхаславацкай дзяржаўнасці ці тэрытарыяльныя змены, якія немцы правадзілі яшчэ да 1939 года. Усе пастановы і абмежаванні, якія былі вынікам Версальскага трактату, немцы ігнаравалі, а Захад гэта адабраў. І выснова магла быць такая, што адзінай дзяржавай, якая дае надзею на змены, была гітлераўская Нямеччына. Таму нельга ігнараваць гэтага факту, што шмат хто ў Цэнтральнай і Усходняй Еўропе чакаў такіх змен. Толькі ніхто не спадзяваўся, што прыйдзе так дзікі, так жахлівы рэжым, як гэта фактычна сталася ў час нямецкай акупацыі; такога чагосьць, такога зверства, якое прыйшло ва Усходнюю Еўропу з нямецкай арміяй, з нямецкай уладай, ніхто не спадзяваўся.

**— А калі ўспыхнула гарачая вайна, тут у верасні 1939 года, чым можна патлумачыць пасіўныя паводзіны альянтаў Польшчы: ці яны ведалі, што лёс Польшчы ўжо наканаваны і ці варта ў гэта ўмешвацца, што яны прыступілі да вайны даволі сімвалічна?**

— Было двух саюзнікаў Польшчы. Першы, найважнейшы, гэта Францыя, якая падпісала з Польшчай у 1921 годзе нешта накшталт трактату. Калі больш дакладна прачытаць гэты трактат, то Францыя не мела ніякіх мілітарных абавязацельстваў адносна Польшчы. Францыя мела абавязак памагаць Польшчы — матэрыяльна, пастаўляць зброю, палітычна падтрымліваць, але не было мілітарнага абавязку. Пасля назіраем нешта такое, з французскага пункту гледжання, што саюз з Польшчай ставаўся штораз больш нявыгадным. Францыя хацела збудаваць тут, на ўсходзе Еўропы, нейкі блок дзяржаў, які б заступіў Расію. Расія ў Першую сусветную вайну была галоўным саюзнікам Францыі. Расіі не стала, стаў Савецкі Саюз, у ідэйнай апазіцыі да цэлага свету, і для Францыі ён не мог быць партнёрам. Таму Францыя імкнулася стварыць саюз такіх краін як Югаславія, Румынія, Чэхаславакія і Польшча. Але польска-чэхаславацкі канфлікт не дазваляў стварыць такі саюз. Канфлікт, зусім мала важны з пункту гледжання еўрапейскай палітыкі, псаваў усю французскую канцэпцыю. У канцы 1920-х гадоў у Францыі з'явіліся пацыфісцкія настрої. Гэта зразумела: французы патрацілі чатыры мільёны людзей, з фронту пасля Першай сусветнай вайны вярнуўся мільён інвалідаў, пакалечаных фізічна і псіхічна. І французы пабачылі, што ўсё ж так можна жыць, віно піць, весяліцца. Французы марылі, каб ніколі больш вайны. Такія настроі выступалі таксама і ў Англіі, можа не ў такім маштабе, але выступалі. Кожны ўрад лічыўся з тым, што калі падыме ваенную рыторыку — ці то ў Англіі, ці ў Францыі — ніколі не будзе адобраны ў дэмакратычных выбарах. Таму кожны ўрад мусіў старацца не дапусціць да вайны.

**— Мусілі рабіць пад электарат.**

— Так, таму палітычныя канцэпцыі — і французскія, і англійскія — ішлі ў напрамку пагаднення з усімі, абы пазбегчы вайны. Францыя ў канцы 1930-х гадоў фактычна ўжо не вяла сваёй палітыкі. У канцы 1930-х гадоў Францыя мела абавязацельствы і адносна Польшчы, і Чэхаславакіі. Толькі французскі ўрад ведаў, што нічога з гэтага не атрымаецца, што калі нейкі крызіс успыхне на ўсходзе Еўропы, то ўрад не атрымае адабрэння з боку свайго грамадства, не пашле сваёй арміі. Французы шукалі саюзу ўжо нават з савецкай Расіяй. У 1938 годзе, у самы жахлівы генацыд у Савецкім Саюзе, французы заключаюць нейкія дагаворы з Расіяй, напрыклад, як супольна абараніць Чэхаславакію. З геаграфічнага

чытайце☞10



# Не радуе



Успомніўся стары добры анекдот. Праўда, ён настолькі філасофскі і глыбокі, што і анекдотам яго назваць неяк язык не паварочваецца. Назваць навучаннем, таксама не зусім пасуе. Мудрасцю ўзвялічыць, зноў жа неяк не хочацца, бо гэта будзе занадта разумна, суха і занудна. Так-так, некаторыя віды мудрасці таксама бываюць зануднымі... Ну, ды не пра гэта зараз. Пра гэта другі раз распавяду. А зараз лепш пра той анекдот.

Справа, значыць, была так. Ідзе неяк па горадзе пасля навагодніх святаў сумны мужчына і цягне за правады за сабой ёлачную гірлянду. Твар увесь у апатыі, няголены, погляд патухлы, хмуры, дыханне цяжкое, сліны горкія. Таму раз-пораз сплёўвае на зямлю. Заходзіць у магазін, дзе да Новага года набываў тую гірлянду, і глухім голасам паведамляе:

— Я хачу вярнуць вашу гірлянду назад. Яна яшчэ на гарантыі. Забярыце.

— А што здарылася, — ветліва цікавіцца загадчык магазіна. — Яна што, не працуе?

— Ды не, працуе нармальна, — адказвае мужчына.

— Нічога тады не разумею, — здзіўляецца прадавец. — А чаму ў такім разе вяртаеце?

— Працуе, але ўжо не радуе, — тлумачыць мужчына.

Не ведаю, чым там у іх усё закончылася ў магазіне, анекдот пра гэта замоўчвае. Аповед абрываецца ў самым разгары падзей. Ну, на тое ён і анекдот.

А вось што тычыцца мяне, то я б на месцы загадчыка магазіна ўзяў бы гірлянду назад, і грошы мужчыну вярнуў бы. Хай хоць бутэльку гарэлкі на іх набудзе. Можа тая ўзрадуе. Для падняцця настрою паўлітра гарэлкі — амаль бяспройгрышны варыянт, хаця, бывае, у вельмі складаных душэўных пакутах і цэлы літр не дапамагае.

Я, выконваючы абавязкі назіральніка на гэтых выбарах, успомніў гэты стары анекдот, прааналізаваўшы ўбачанае ў сеціве і ў рэальным варыянце. Я зараз кажу пра пікеты па зборы подпісаў ініцыятыўнымі групамі апазіцыйных прэтэндэнтаў на кандыдацкія месцы. Праўладныя кандыдаты не асабліва спяшаюцца такія пікеты праводзіць. А навошта? Яны ўпэўненыя ў станоўчым для сябе выніку выбараў. І гэтая ўпэўненасць не беспадстаўная.

Ну, дык пра апазіцыйныя пікеты. Дзякуючы выбарам яны сталі мажлівыя. О, колькі я прастаяў у падобных пікетах за сваё жыццё! Наляцелі ўспаміны пра тое, як гэта было, і параўнанні, як гэта зараз. На першы погляд адрозненняў няшмат. Толькі вось нешта не тое. Ну сцяг той самы, і лозунгі, і задачы, і нават людзі стаяць усё тыя ж. А што не так — не пайму. І толькі пасля дапетрыў. Не радуе...

Ну, не радуе! Як таго мужыка з гірляндай. Нібыта ўсё працуе, але ўжо не радуе...

Вось раней радавала такое відовішча, а зараз ужо не. Ці то досведу больш стала, ці то веры менш?! Ці стомленасць лягла на плечы, ці адчай, ці расчараванне? Ну вось хоць ты вазьмі паўлітра гарэлкі, каб палягчэла, дык і гэтага нельга! Дактары забаранілі! І тут аблом! І каб так абламацца, трэба, каб вельмі моцна не пашанцавала, і не адзін раз...

Ну, калі і гэтага нельга, то трэба тады выказаць хоць пару слоў захаплення тымі, хто працягвае стаяць там, пад бела-чырвона-белымі сцягамі. Прычым выказваю шчыра і абдумана. Яны добра ведаюць, таксама як і іх праўладныя супраціўнікі, чым скончацца гэтыя выбары. І большасць з іх нават не кандыдуюць, а толькі ўваходзяць у ініцыятыўную групу. Але стаяць. А чаму?! Бо нехта ж мусіць тут стаяць!!!

Яны добра ведаюць і тое, што нават у сусветнай дэмакратычнай супольнасці іх мала хто заўважыць. У параўнанні з сусветнымі праблемамі, ці хоць нават з суседнім украінска-расійскім канфліктам, беларускія справы здаюцца не першачарговымі. Ды яны і ніколі не былі першачарговымі, калі казаць шчыра! А зараз дык і падаўна!

І ўсе гэта добра разумеюць. Але яны стаяць! Бо нешта ж трэба рабіць! Рабіць актыўна. Удзельнічаць, то актыўна. Не ўдзельнічаць, то таксама актыўна. У адрозненні ад крыкуноў, якія не падымаючыся з канапы, абгаворваюць кожнае іх дзеянне і не шкадуюць негатыўных адзнак. Далі новыя тэхналогіі тым крыкунам такую забаву, як інтэрнэт. Цяпер можна гаўкаць без адрыву азадка ад крэсла...

Таму бяру і іду туды зноў, дзе лунае бел-чырвона-белы сцяг і стаяць людзі, якія нешта робяць...

Хоць гэта ўжо і не радуе. Пакуль што не радуе. А як там далей карта ляжа, а хто яго ведае...

**Віктар САЗОНАЎ**

# Толькі адна праблема

Ідэя „Польшча пад крыжам” — вельмі інтрыгуючая! Акцыя, заснаваная на ёй, якая ахапіла многія гарады ў мінулыя выходныя, сабраўшы тысячы вернікаў, безумоўна, убачыць сур'ёзны сацыялагічны аналіз. Гаворка пра дзясяткі, калі не сотні, тысяч людзей, якія ў рэлігійным акце зноў даверылі жыццё Хрыстоваму крыжу і яго бясспрэчным каштоўнасцям. Крыж? Я да яго нічога не маю. Паважаю ягоную сімволіку. Я не маю нічога да яго руплівага абажання. Калі б усё натхняла непераадольная патрэба ў калектыўным удзеле, спантанная праява веры ... Эх, калі б! Я пішу гэтыя словы свежа, таму не маю поўнага разумення таго, што дзеянне мела на мэце раскрыць або асвятліць. Наколькі гэта было звязана з іх відавочным саюзам — і наколькі цудоўна ажыўленай рэлігійнасцю маіх землякоў. У адным я ўпэўнены, што лепш мне ўбачыць іх пад... прэнгерам. Няхай яны раскрыюць усе свае (чалавечыя ці нацыянальныя?) грахі, усе гэтыя заганы, бяздзейнасць. Няхай яны самабічуюцца. Неабавязкова фізічна. Для іх дастаткова зрабіць надзейны агляд сумлення. Факт, гэта патрабуе шмат мужнасці і нават нейкай духоўнай непахіснасці, што з'яўляецца самым складаным. Я гэта ведаю, але трэба пастаянна спрабаваць пераадолець цывільную баязлівасць.

Скажам прама: нягледзячы на ілюзорнасць такога знешняга парадку і аднoснага росквіту, калектыўны стан унутраной трывожнасці становіцца ўсё больш прыкметным. Гэта нявызначаны стан. Падступны — таму што неназваны. Амаль непрыкметны, бо точыцца пад карой свядомасці. Гэта як караед, які ціха, амаль бязбольна точыць у нашай падсвядомасці цёмныя калідоры страхаў, выкусвае ў ёй наступныя каморы і множыцца, з няпэўнасцю заўтрашняга дня, расчараваннем, бязмэтнай агрэсіяй. Гэта заўважна, таму што гэта бачна праз ускосныя знакі. Проста чытайце навіны са свету, з Польшчы. Проста паслухайце, што сёння гаворыцца, але ў першую чаргу, як гэта сказана. Тут натуральныя зносіны з выкарыстаннем выразных паняццяў замяняюць туманную мову экстрэмальных эмоцый. Яны палярызуюцца ва ўсё больш экстрэмальных поглядах. Нацыяналізм, ксенафобія, фашызм і расізм і, нарэшце, нацкоўванне аднаго да аднаго, фанабэрыстасць і жорсткасць паўсядзённага жыцця — гэта толькі ўскосныя прыкметы трывогі людзей, якія іх зжыраюць. Аднак мы нават не спрабуем гэтага дыягнаставаць. Ці, падпарадкоўваючыся першапачатковым інстынктам, якія загадваюць нам ігнараваць неназванае, мы пазбаўляемся турботы. Таму што неназванае ў «ментальнай» рэальнасці не існуе. Гэта такое спрытнае ўхіленне, але яно нічога не вырашае. Бо ж праблема, калі яна выяўляецца, нават калі яе ігнаруюць, застаецца праблемай. Пытанне толькі ў тым, ці дазваляе наш стан ведаў вызначыць гэта? Часам грамадствы не з'яўляюцца інтэлектуальна кампетэнтнымі, каб бачыць праблему ці групу праблем. Часам прызнанне і вызначэнне само па сабе нічога не вырашае, таму што іх прычына і паслядоўнасці не цалкам вывучаны. Іншымі словамі, мы супраць іх бездапаможныя... з-за недахопу ведаў. Толькі веданне аб невуцтве такое ж магутнае, як і само веданне. Аднак мы аддаем перавагу пазбягаць такога супрацьстаяння. Гэта нават здаецца быць культурнай звычкай, якая выкарыстоўваецца ад світання чалавецтва. Незабыўная таксама сёння. Напрыклад, у прымітыўных культурах, каб узмацніць эфект пазбягання, ён часта быў узмоцнены моцнымі табу. Якім бы табу не назваць, гэта была звычайная і ў многіх выпадках разбуральная змова цішыні, парушэнне якой пагражала выключэннем з грамадства і нават смерцю бунтара. Аднак функцыю табу ў фарміраванні і развіцці першасных супольнасцей нельга недаацэньваць. Антраполагі яшчэ не дастаткова расшыфравалі яго сэнс. У наш час гэта таксама іграе важную, хаця і менш ясную ролю. Магчыма, гэта інстынктыўны рэгулятар празмерна буйнага развіцця, такога ўспрымальнага да паломкі, што прыводзіць да радыкальнага вяртання да зыходнай кропкі. Да стану дзікунства? Да першапачатковага хаосу? Такіх рэгулятараў больш. Рэлігія, асабліва ў сваёй фундаменталісцкай праяве, якая перыядычна выходзіць на першы план ва ўсіх канфесіях, з'яўляецца такім рэгулятарам неўтаймаванага прагрэсу. Сёння «табу» называюць эфектам рассейвання праблемы. Педафілія сярод каталіцкіх святароў, іх частыя парушэнні цэлібату, распуста? Гэта не праблема Касцёла, але індывідуальныя і вельмі пагарджальныя чалавечыя здарэнні...

**Міраслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

# Госці з Сілезіі

Апошнія выходныя правеў я са сваёй блізкай сям'ёй з Сілезіі. Мая дваюрадная сястра не была ў маім Доўгім Бродзе звыш трыццаці гадоў. Пабыўка на вярстоцкіх могілках, на магілах дзеда і бабы, наведванне маіх бацькоў было найважнейшай для яе справай. Былі яны проста ў захапленні ад царквы ў Вярстоку і адрамантаванай плябаніі, пра якую ўзгадваў я тыдзень таму назад у гэтым месцы. Прыгожае, восеньскае надвор'е, з шумам дрэў і спеласцю кветак, імгненна ўводзілі нас у настрой суцішанасці і задуменнасці. Размаўляючы, заўважылі мы таксама як чалавек з узростам дарастае да разумення важнасці сямейнай і чалавечай памяці, як важнае быць са сваімі бацькамі ў радасных і сумных справах. Таго патрабуе проста жыццё. На фоне царквы нашы роздумы былі проста пацвярджэннем важнасці духоўнай сферы ў зямной дарозе.

Зразумела, што госці хацелі як найбольш пабачыць на нашым Падляшшы. Маршрут вандровкі склаў я так, каб не абмінуць Бельска-Падляшскага, Орлі, Гайнаўкі, Нараўкі, Міхалова, Супраслі. З майго боку было вельмі цікавым пачуць іхнія заўвагі і назіранні наконт нашай рэчаіснасці. Муж маёй сястры працуе шафёрам на грамадскім транспарце ў Глівіцах і, даязджаючы да Бельска, паставіў мне простае пытанне: чаму цягам гадзіннай дарогі з Беластока мы на шашы не сустрэлі аніводнага аўтобуса? Камунікацыйнае выключэнне проста яму кінулася ў вочы, маючы прытым на ўвазе напэўна дэмаграфічныя і камунікацыйныя патэнцыял катавіцка-глівіцкай метраполіі. Цягам нашай вандроўкі і на іншых дарогах не ўдалося нам пабачыць аўтобуса. Жартаўліва я ім тлумачыў, што аўтобусы хіба адляцелі ў вырай разам з буслямі, якія ўжо не прыносяць дзяцей у наш куток свету. Не было таксама зусім відаць людзей на лавачках. Толькі ў Рыбалах акурат адбываліся беларускія дажынкі, якія сцягнулі на фэст усё наваколле. Беларускія спевы былі вельмі даспадобы маім гасцям, таксама як двухмоўныя надпісы ў Арлянскай гміне. Зразумела, што наша размова пайшла пра нямецкія надпісы ў Апольскім ваяводстве, дзе іх значна больш. Калі мы трапілі ў Міхалова, на маё здзіўленне госці затрымаліся перад мясцовай, нядаўна збудаванай ратушай і проста сфоткаліся на фоне будынка з гадзіннікамі. Для іх ратуша ў такой малой мясцовасці выклікала пытанне адкуль тут грошы, каб узводзіць такія шыкарныя збудаванні. Я ім патлумачыў, што бургамістр, часта званы ў народзе «шэйхам», і гміна маюць шчасце, што на іх тэрыторыі ляжаць трубы газапровада «Дружба» і грошы за арэнду зямлі трапляюць у мясцовае самакіраванне. Ну і якасная дарога праз Кнышынскую пушчу з часткова роварнай дарожкай ледзь не ўвяла маіх спадарожнікаў у сапраўдную эйфарыю. «Але то муsіла каштаваць», — круцілі галовамі госці. Прытым трапна заўважылі таксама, што не мінулі мы аніводнага раварыста, а надвор'е проста было створана для роварных паездак. Таксама ў падсумаванні ўражанняў ад паездкі самі адзначылі агромадную колькасць кукурузных плантацый на нашай зямлі. У іх чагосьці такога вялікага няма, бо збожжавыя культуры там надалей у пашане. От, такія назіранні.

Сам Беласток для маіх гасцей спадабаўся сваёй колькасцю зелені і пасеянных на кальцавых развязках сланечнікаў і палеткамі натуральных кветак. Тут голас узяла жаночая эстэтыка, якая безупынна фоткала асабліваcці беластоцкіх кветак і дрэванасаджэнняў. Мая сястра проста фанатка кветак і зёлак, бо іхні адпачынкавы домік у горах проста патанае ў моры ўсялякай расліннасці. Менавіта ў цішыні гор набіраюць яны сіл для змагання з хваробамі сённяшняга свету. Мужчынская частка сям'і з іхнім сынам, студэнтам, здзіўлялася колькасцю аўтакомісаў у нашым горадзе. Яны іх проста пачалі лічыць, а надпісы ў стылі «толькі нямецкія аўто» выклікалі ў іх проста надзвычайную цікавасць. «Ого, у нас няма такой насычанасці аўтакомісаў», — гаварылі, спазіраючы на доўгі шэраг «мерседэсаў» на комісной стаянцы. Ну і не маглі нахваліцца тых гарадскіх кальцавых развязак, якія дазвалялі ім беспраблемна рухацца па горадзе. Праз год плануюць прыехаць на Падляшша на даўжэй, чым на тры дні. Спадабалася.

**Яўген ВАПА**

***«І беларусаў, і палякаў заўжды аднолькава хвалюе і дарагое слова «дзякуй», і непаўторнае «dziękuję»***

— яшчэ раз прагучаў на пачатку шматлюднага мерапрыемства ў сонечна-ветраное надвор'е 8 верасня на беластоцкіх Плянтах верш Віктара Шведа (94 гады), які быў прысутны і падпісваў свае кнігі разам з іншымі «белавежцамі» асабліва маладым удзельнікам фэсту. Ён жа і фестываль «Артыстычныя сустрэчы». Шматгадовае партнёрства паміж Гроднам і Беластокам вылілася ў маштабны фестываль «Артыстычныя сустрэчы „Беласток — Гродна"». Па традыцыі яркае свята міжнацыянальнай дружбы гарады-пабрацімы прымаюць на сваёй тэрыторыі па чарзе. Сёлета фестываль праходзіў у Беластоку. Як звычайна, так і сёлета, праводжаны па чарзе ў сталіцах Гродзеншчыны і Падляшша, Фестываль польскай і беларускай песні „Беласток-Гродна" прыцягнуў натоўп гледачоў. На беластоцкіх Плянтах былі крамкі з народным промыслам, літаратурай і кампакт-дыскамі. Перш за ўсё гэта музыка гучала са сцэны ў выкананні дзевятнаццаці ансамбляў польскай меншасці з Гродзенскай вобласці і беларускай з Беласточчыны.




# XXVI Фестываль польскай і беларускай песні „Беласток — Гродна"

— Яркае свята міжнацыянальнай дружбы — фестываль «Артыстычныя сустрэчы „Беласток — Гродна"» 8 верасня прымаў польскі горад Беласток, — інфармавалі пасля ў Гродне. — Самыя яркія таленты Падляшскага ваяводства выконвалі песні на беларускай мове, а каларытныя, самабытныя артысты Гродзенскай вобласці ў сваёй творчасці прадстаўлялі нацыянальную польскую культуру. У прыгожым парку, які патанае ў кветках і зяляніне, побач з фантанам, панавала неверагодная атмасфера добрасуседства і ўзаемаразумення. Шматлікія гледачы гарачымі апладысментамі віталі ўсіх без выключэння артыстаў. Святочны дзень быў напоўнены творчай радасцю, феерверкам фарбаў, гучаннем чароўных галасоў, паэзіяй і музыкай душы адораных аўтараў і выканаўцаў! Дарэчы, свята сабрала нават тых гасцей, якія даўно жывуць па-за межамі Польшчы, але захоўваюць у сэрцы найлепшыя ўспаміны аб фестывалі і стараюцца ніколі яго не прапускаць. На фестывалі Гродзеншчыну прадстаўлялі народны ансамбль „Гараднiца" з Гродна, народны ансамбль „Стокроткі" з Бераставіччыны, народны ансамбль „Гудскі гармонік" з Лідчыны, народны тэатр „Матуліна песня" з аграгарадка Жытомля Гродзенскага раёна, народны ансамбль „Зарачанскія крынічкі" з вёскі Зарачанка Гродзенскага раёна, салісткі народнай эстраднай студыі «Мілленіюм» з Гродна. Упершыню на свята прыехаў духавы аркестр «Porech'e ViP band» з аграгарадка Парэчча Гродзенскага раёна, які пакарыў прысутных віртуозным выступленнем. Асаблівае замілаванне ў гледачоў выклікалі маленькія ўдзельнікі ўзорнага ансамбля танца „Радунскія салавейкі" з Радунскай сярэдняй школы Воранаўскага раёна. Нумары проста зрывалі авацыі, прыхільнікі беларускай і польскай культуры спявалі разам з артыстамі і танцавалі пад знаёмыя мелодыі. Фестываль сапраўды аб'яднаў людзей — палякаў і беларусаў, артыстаў і гледачоў, дарослых і дзяцей. Традыцыйна яркім фінальным акордам свята стала песня «Люблю наш край» у выкананні зводнага хору з беларускіх і польскіх выканаўцаў.





Праўда, падабалася гледачам імпрэза, дзеля якой рэзервуюць нядзелю, каб разам з сем'ямі паслухаць прыгожыя песні, паразглядацца па крамках з народнай творчасцю, набыць дыск з творамі любімых музыкаў, пагартаць, а то і купіць кніжку. Асабліва прыцягваў незаморскі паэт з Мора, да якога падыходзілі з віншаваннямі і цікаўнасцю. Былі такія гледачы і чытачы, якія маюць дома бібліятэчкі з творамі аўтараў з Беласточчыны. І яны, бывае, невядомы аўтару і журналістам беларускамоўных СМІ, якія маглі б сказаць, што могуць пералічыць кожнага свядомага беларуса з Падляшша і ўсёй Польшчы. А такія падзеі як фэсты Беларускага грамадска-культурнага таварыства з'яўляюцца нагодай сустрэць іх — і верных выканаўцаў, і прадаўжальнікаў спадчыннай песні, і тых, якіх яна прыцягвае. Проста — сустрэцца сярод сваякоў, родных людзей. А такое мерапрыемства з цікаўнасцю наведваюць таксама тыя, хто любіць добрую песню. Дзе гучыць спеў, туды ідзі — там людзі добрыя сэрцы маюць. Вядома, каб зрэалізаваць такую імпазантную сустрэчу, неабходная датацыя (тут дакляўся Міністр унутраных спраў і адміністрацыі Польскай Рэчы Паспалітай). І да фіналу, дзе прагучаць песні „Piękna nasza Polska cała" ды «Люблю наш край, старонку гэту», гімнаў, якія спявае хор з усіх выканаўцаў ды ўстаўшыя на ногі слухачы.

— Што адчуваю, калі гучаць мае словы верша ці ў песні? — усміхаецца Віктар Швед. — Шчасце і хваляванне. Радасць, што мае словы кранулі людзей. Што выказаў я ў вершаваным радку думку таксама іншых беларусаў, родных мне людзей, якія шчыра прызнаюцца да беларушчыны і горнуцца да яе. А з Гроднам маю вельмі добрыя кантакты і ўспаміны. Напісала мне пару вершаў Людміла Кебіч, пісалі на мае словы песні гродзенскія кампазітары, меў я аўтарскія сустрэчы, радыёперадачы, знялі тэлефільмы пра мяне і маю творчасць. Вельмі прыемныя і інспіруючыя сустрэчы.

— Знала я ваша прозвішча, — кажа папольску жанчына, гартаючы кнігі для дзяцей. — Але не ведала ў твар. Ой, як добра выглядаеце! Гэта вашы кнігі. І для дзяцей пішаце? А ці была рэдактарка Радыё Рацыя? Я слухаю гэтае радыё, мне цікава чуць беларускую мову.

Прывіталі ўсіх па-беларуску намеснік старшыні ГП БГКТ Васіль Сегень і начальнік аддзела культуры Гродзенскага абласнога выканаўчага камітэта Вольга Багдановіч.

— Дзякуем Беларускаму грамадска-культурнаму таварыству ў Польшчы за запрашэнне на фэст. Мы таксама ў Гродне праводзім супольныя фэсты — і на Аўгустоўскім канале, і свята Казюкаў, і фестываль нацыянальнасцей, куды запрашаем і шчыра вітаем творцаў з Беласточчыны. Мы вельмі рады сяброўскім сувязям і ганарымся магчымасцямі, якія дае супрацоўніцтва. Дазвольце перадаць мне маленькі падарунак праўленню БГКТ ад Гродзенскай зямлі з надзеяй на далейшыя сяброўскі адносіны.

„Bo wszyscy Polacy to jedna rodzina, stary czy młody, chłopak czy dziewczyna", — гучала ў выкананні спевакоў з Беларусі, але і па-беларуску — «Матуліна песня» (з Жытомлі). Вельмі хораша вялі сустрэчу вядучыя з Гродна і з Беластока (вельмі ўдалы дэбют на сцэне Ганны Комінч з Радыё Рацыя).

— Вельмі пашчасціла Гарадку, — вітала гарадоцкі гурт Ганна. — Бо ёсць яшчэ шмат людзей, якія хочуць спяваць, але ёсць пакаленне музыкаў, ад якіх маладыя могуць вучыцца, дзе спяваюць музыкі розных пакаленняў.

— Добры дзень Беласток, вітае вас Гарадок! — Янка Карповіч, музыка, аніматар культуры і неблагі празаік заўсёды перад выступам скажа пару слоў да нецярплівай публікі. І ліецца тэмпераментная песня. У гэты раз сам Янка напісаў музыку да вядомага верша Уладзіміра Гайдука з Тарнопаля Нараўчанскай гміны.

Напісалі свае словы і музыку хлопцы з «Сувеніра» Янка Хоха і Андрэй Жамойда. Багдан Атсапчук («Лайланд») новыя песні вывучыў з дачушкамі і пляменніцай. Вырасла новае пакаленне вядучых калектывы — «Росамі» з Рыбалаў кіруе і спявае з імі вучаніца Лідзіі Мартынюк Арыянна Бяліцкая-Скаўронская; Марыя Грэдэль-Іванюк яшчэ нядаўна сама выступала на беларускіх сцэнах, а ўдала і з поспехам вядзе маладзейшых спевакоў з гайнаўскага «Малога ГДК»; падобна як Марыя Пашко, якую памятаем як дзяўчынку, выступаючую на дэкламатарскіх і спявацкіх конкурсах — вядзе ласінскую «Гармонь». Галена Шчыгол з Сямятыч у сваім «Аморфасе» вывучыла спеваў таксама сваю дачку і прэзентуе сваю першую кружэлку «Ой, пайду на даліну», дзе паказалася таксама як кампазітарка — песня на яе мелодыю і словы Міры Лукшы «Мала айчына» («...Падляшскі наш край») гучала ў Мінску на фестывалі культуры беларусаў свету. Дарэчы, спадарыня Галена — таксама мастачка і трымае ў Сямятычах сваю мастацкую галерэю. Можна сказаць, што многія з тых, хто паяўляецца на сцэне ці эстрадзе, ці за столікам з рукадзеллем, ці кнігамі — талентаў даў Бог хоць адбаўляй — дакладваюць свой дарагі каменьчык у мур дома нашай роднай культуры, хай і маленькі, але вельмі каштоўны.

Тэкст і фота
**Міры ЛУКШЫ**

# Многа прапаноў на IX Бульбафэсце ў Ліпінах

Восеньскія спатканні пры пячэнні бульбы на вогнішчы ў Ліпінах ператварыліся ў вялікі бульбафэст, у час якога музычным выступам на сцэне спадарожнічаюць дэгустацыя бульбяных страў, адмысловыя конкурсы і майстар-класы для цэлых сем'яў, прысвечаныя перш за ўсё нацыянальнай страве беларусаў — бульбе. IX Бульбафэст, які называецца таксама святам бульбы, быў паспяхова наладжаны 7 верасня каля вясковай святліцы ў Ліпінах, дзе сабралася шматлюдная публіка. Арганізатары падрыхтавалі ўдзельнікам асенняга мерапрыемства многа цікавых прапаноў адпачынку.



— У час бульбафэсту арганізуем конкурсы і спаборніцтвы, якія перш за ўсё тычацца бульбы. Удзельнікаў мерапрыемства пытаем пра вырошчванне бульбы і бульбяныя стравы. Штогод пячэм у вогнішчы загорнутую ў фольгу бульбу, якую называем «бульбай у сярэбраных сарочках». Яна не прыгарае і адмыслова смакуе, — сказала Кацярына Якубоўская, старшыня аб'яднання «Крыніца» ў Ліпінах, якое арганізуе бульбафэст разам з войтам Гайнаўскай гміны і Гмінным цэнтрам культуры ў Дубінах.

Удзельнікі фэсту спажывалі бульбу спечаную ў вогнішчы, звараную ў мясным супе і бульбяное смакоцце, падрыхтаванае на «Кулінарны конкурс на самую смачную бульбяную страву». Жанчыны з гурткоў вясковых гаспадынь падрыхтавалі таксама свае стравы з бульбы, якімі можна было частавацца.

Бульбафэст пачаўся з міні-канцэрта на фартэпіяна Мацея Кандрацюка і агульнанацыянальнага чытання польскіх навел, якое адбывалася якраз 7 верасня ў Польшчы і за межамі нашай краіны пад ганаровым патранатам прэзідэнцкай пары. У Ліпінах чыталі, між іншым, войт Гайнаўскай гміны Люцына Смактуновіч, бургамістр Гайнаўкі Ежы Сірак, радная Гайнаўскага павета Ала Грыц, дырэктар Гміннага цэнтра культуры ў Дубінах Марыёля Герман-Петручук і старшыня аб'яднання «Крыніца» Кацярына Якубоўская. Менавіта яна адкрыла бульбафэст разам з войт Гайнаўскай гміны Люцынай Смактуновіч, а ўсё мерапрыемства ўдала павяла дырэктар ГЦК Марыёля Герман-Петручук. Любіцелі матацыклаў, згуртаваныя ў нефармальнай групе «Мота-Гайнаўка», гучна ўехалі на адмысловых матацыклах на фэст і перад музычнымі выступамі праехаліся каля сцэны. Пажарнікі з Махнатага наймалодшым паказалі абсталяванне пажарнай машыны і расказалі пра тушэнне пажараў. Старэйшыя асобы загадзя занялі сядзячыя месцы насупраць сцэны і засяродзіліся на выступах, а дзеткі бегалі і гулялі на пляцоўцы спецыяльна для іх прызначанай. Перад публікай цікава запрэзентаваўся ў пачатку бульбафэсту калектыў «Жаваранкі» з Махнатага.

Жаўнеры Войск тэрытарыяльнай аховы паказалі дзеткам зброю, ваенную тэхніку і арганізавалі ім спаборніцтвы. Аднак большасць спаборніцтваў тычылася бульбы. Удзельнікам спаборніцтваў была добрая нагода паказаць сваю лоўкасць, хуткасць, а таксама здабыць атракцыйныя ўзнагароды, паколькі арганізатарам удалося знайсці шматлікіх спонсараў, якія фінансава ўспамаглі арганізацыю бульбафэсту. Удзельнікам мерапрыемства смакавалі стравы, якія падрыхтавалі арганізатары і гурткі вясковых гаспадынь з падгайнаўскіх мясцовасцей. Вялікая чарга доўга выстойвала да катлоў са смачным супам. Сёлета можна было перадаць ахвяраванні на лячэнне дзетак з Ліпін.

— На гэты раз мы зварылі бульбяны суп паводле рэцэпта, які атрымалі ад цыганоў. Мы расходавалі на яго 30 кілаграмаў бульбы. Паколькі цыганкі ў мінулым варылі суп перш за ўсё на курацыне, мы дадалі яе больш, чым бульбы, бо ажно 32 кілаграмы. Яшчэ расходавалі мы 14 кілаграмаў свініны, вэнджанае сала, каўбасу, белую капусту, цыбулю, часнок і многа іншых інгрэдыентаў. Усё патрэбнае для супу мы пачалі рыхтаваць учора і ўжо сёння раніцай сталі варыць суп, які хіба смакуе, паколькі выстраілася за ім чарга, — распавяла кухарка Ніна, у якой доўгі вопыт працы на кухнях розных устаноў.



Конкурсу на найдаўжэйшую лупіну з бульбы

Спечаную на вогнішчы бульбу ўдзельнікі фэсту спажывалі як смакоцце. У гэтым годзе на «Кулінарны конкурс на самую смачную бульбяную страву» было падрыхтаваных восем страў і ўсе былі смачнымі.

Цікава ў час фэсту беларускія песні заспявалі салісткі Оля Мілішэўская і Юлія Вжосак. Публіцы цікава было таксама паглядзець выступ калектыву «Цыганскія сэрцы» з Ігрыл. Жанчыны і мужчыны, апранутыя ў цыганскую каляровую вопратку, спявалі на розных мовах і танцавалі, а іх лідар уступаў у гутарку з публікай. Па-акцёрску запрэзентаваўся калектыў «Забабоны» з Мінска, які спалучыў музыку з акрабатыкай. Калектывы «Сувенір» з Беластока і «Лотас» з Дубін сваімі выступамі заахвоцілі публіку да танцаў.

— Сёлетні бульбафэст вельмі ўдалы. Цёпла сёння і няма дажджу, а з гэтым бывала па-рознаму ў час папярэдніх фэстаў. Тут многа прапаноў для дзетак і моладзі, са сцэны гучыць цікавая музыка. Частка дзетак прыязджае сюды з-за конкурсаў і спаборніцтваў, — сказалі асобы з публікі. Зацікавіў яе сваімі двума сатырычнымі расказамі вучань Гайнаўскага белліцэя Крыстыян Паскробка. Адной з яго прапаноў быў расказ пра самагоншчыка, з якім выступаў паўтара года таму на «Беларускай гавэндзе», арганізаванай у Гайнаўскім белліцэі. Крыстыян таксама цікава запрэзентаваў сцэнку наконт бульбы.

— Я наладзіла супрацу з настаўніцай беларускай мовы Нінай Абрамюк з Нарвы і яе вучнямі. Выступалі яны ўжо ў святліцы ў Ліпінах у час вячорак. Мне спадабаліся расказы Крыстыяна Паскробкі. Цяпер ён вучыцца ў белліцэі і я запрапанавала яму выступ у час бульбафэсту, — заявіла Кацярына Якубоўская.

— Тэатральнай справай зацікавіла мяне мая настаўніца беларускай мовы Ніна Абрамюк. Я прадаўжаю тэатральную актыўнасць у белліцэйскім тэатральным кружку «Драма», якім апякуецца мой настаўнік беларускай мовы Ян Карчэўскі. З ім я і падрыхтаваў расказ пра самагоншчыка. Сцэнку пра бульбу, каб падыходзіла да сённяшняга бульбафэсту, я падрыхтаваў разам са спадарыняй Кацярынай Якубоўскай, — распавёў Крыстыян Паскробка.

Дзеткі ахвотна прымалі ўдзел у гульнях з бульбай. Падчас конкурсу за кубак войта Гайнаўскай гміны трэба было паказаць лоўкасць і выканаць як найдаўжэйшую лупіну з бульбы. Спаборнічаць за найдаўжэйшую лупіну рашыліся дзве жанчыны і двух хлопцаў. Перамагла ветэранка гэтага спаборніцтва Ірына Лукша з Гайнаўкі, якой атрымалася лупіна даўжынёй у 115 сантыметраў. Гэта быў намнога лепшы вынік, чым мінулагодні яе рэкордны рэзультат.

— Найдаўжэйшую лупіну можа атрымаць не з самай вялікай бульбіны, як гэта атрымалася ў мяне сёлета. У мінулым годзе бульба была намнога большай, а лупіна перарвалася, — заявіла спадарыня Ірына Лукша, якая атрымала кубак. У мінулых гадах яна ўзнагароджвалася за перамогу ў віктарыне па бульбе. У гэтым годзе на пытанні пра бульбу адказвалі сем'і, якія раней паводле падказак шукалі скарб.

— Сённяшнія конкурсы і гульні цікавыя і зрабілі бульбафэст больш атракцыйным, — заявіў мужчына сярэдняга ўзросту.

— Мой муж Кшыштаф Якубоўскі сам цікавіцца матацыкламі і запрапанаваў, каб аб'яднаныя ў Гайнаўцы байкеры пачалі сённяшняе мерапрыемства ўездам на пляцоўку. Мы хацелі зрабіць больш разнастайнымі выступы на сцэне, таму запрасілі калектыў «Забабоны» са сталіцы Беларусі і цыганскі калектыў з Ігрыл, які даў нам рэцэпт на цыганскі суп, — заявіла Кацярына Якубоўская.

Менавіта сустрэча ў яе на панадворку дала пачатак мерапрыемству цесна звязаным з бульбай. Заснаванае ў 2013 годзе аб'яднанне «Крыніца» адразу стала галоўным арганізатарам штогадовага бульбафэсту. Разрося бульбафэст і сёлета яго публіка складала некалькі соцень чалавек. Вуліца ў частцы Ліпін у час фэсту была з абодвух бакоў застаўлена аўтамабілямі. Многія ўдзельнікі фэсту ставілі машыны таксама на панадворках. Некаторыя на бульбафэст, які праходзіў метраў трыста ад Белавежскай пушчы, прыйшлі з Гайнаўкі пяшком або прыехалі на веласіпедах. Свежае і чыстае паветра было чарговым козырам свята бульбы — нацыянальнай беларускай стравы. Яе ўраджай на Беласточчыне сёлета ў сярэднім адносна невялікі з-за засухі. Аднак арганізатары бульбафэсту, прадаўжаючы ладзіць кулінарны конкурс, робяць стаўку на якасць харчавання, якое можна зрабіць з невялікай колькасці бульбы. Прэзентуючы штораз новыя стравы, паказваюцца штораз новыя прыклады выкарыстання бульбы.

Тэкст і фота
**Аляксей МАРОЗА**

*Рэцэнзія*

# Кніжка пра беларускае гора

«Людскі ток» (*Ludzkie klepisko)* Марціна Савіцкага гэта больш чым сямейныя гісторыі. Гэта літаратурная спроба лізнуць беларускае «гора». Аўтар кнігі, унук рэпатрыянта з Навагрудчыны, нягледзячы на сучасныя трэнды, пазбягае крэсавых міфаў і посткаланіяльных сентыментаў. Наадварот, ён трымае здаровую дыстанцыю да падобных карцінак і эмоцый. Не адабрае сенсацыйных замалёвак, напісаных з пазіцыі цывілізацыйнай перавагі. Падобныя пераказы не ўзяліся з паветра, яны існавалі і карміліся сваёй напышлівасцю ўжо пры санацыйнай Польшчы:

*... Podróżujący przez Nowogródczyznę ludzie pióra postrzegali ją na ogół jako jakiś wielki skansen zgubiony pomiędzy wielkimi puszczami. Tę tajemniczą krainę, położoną na obrzeżach zachodniej cywilizacji, zamieszkiwało półdzikie plemię, którego przedstawiciele nazywali siebie „tutejszymi”. Typowy „tutejszy”, wedle ich wyobrażeń, żywi niechęć do jakichkolwiek zmian. Wyróżnia się ciemnotą, podejrzliwością i niechęcią do działania. W gruncie stanowi jednak okaz dzikusa dobrotliwego i niegroźnego, szczególnie w swej odmianie katolickiej, podatnej na asymilację z polskością...* — іранічна прыкмячае аўтар.

Марцін Савіцкі — свайго роду герой, каб нешта больш зразумець з сямейнага пераказу, едзе ў Рэспубліку Беларусь. Адшукае сям'ю, сустрэнецца з мясцовымі краязнаўцамі, пакаштуе славутай самагонкі з Налібоцкай пушчы. Сямейную сагу,ператканую шчасцем, горам і сарамлівымі грахамі, падмацуе архіўнымі знаходкамі. Трывожыць яго вобраз адміраючых вёсак, адчайныя пошукі выхаду ў сітуацыях без выйсця. Яго героі звыкліся саступаць з дарогі іншым, выконваць загады іншых. Няма ў іх угрунтаваных вызначальнікаў нацыянальнасці, няма таксама варожасці да іншых народаў. І гэта невыпадкова, паколькі цягам аднаго жыцця іх становішча радыкальна мянялася, не з'язджаючы з месца людзі ставалі грамадзянамі некалькіх дзяржаў. Словам, усё як у нас на Падляшшы — адно беларускае гора. Аднак гора Марціна Савіцкага крыху шляхецкае і каталіцкае. І тут уваходзім у мала вядомы абшар беларуска-каталіцкай правінцыі, сарамліва прыхаванай ад чужых і нават сваіх вачэй.

Аўтару, каб зразумець самога сябе, трэба змагацца не толькі з каланіяльнымі міфамі. З перспектывы старой бацькаўшчыны, ён больш разумее замоўчаныя тэмы ў сваёй польскай сям'і. Кніжка заварожвае шчырасцю.

* * *

І вось на днях, калі ўзнікала гэтая рэцэнзія, сяброўка набыла «Ludzkie klepisko».

— Я нічога не чытала пра кніжку, — сказала яна, — але паглядзела на крыніцы, якімі карыстаўся аўтар і купіла...

Сапраўды, калі зірнем на спісак у канцы кніжкі, адразу ўключаюцца цікавасць і давер. Вроцлаўскі аўтар карыстаецца, між іншым, працамі беларускіх гісторыкаў: Лены Глагоўскай, Яўгена Міраповіча, Юры Туронка, Андрэя Чарнякевіча, спасылаецца на Янку Брыля, Артура Клімава і Явігіна Ш. І тут няма выпадковасці. Марцін Савіцкі дабіўся ўжо навуковага звання доктара. Не менш імпазантная тэма яго доктарскай дысертацыі: «Менталітэт эліты Беларусі новага часу». Друкаваўся ён у навуковым перыядычным




выданні «Białoruskie Zeszyty Historyczne / Беларускі гістарычны зборнік». Усё гэта падмацоўвае не толькі верагоднасць пераказу. Аўтар разумее ўплыў гістарычных працэсаў на паасобны лёс чалавека. На старонках з адчуваннем і веданнем апісаны ўсе катаклізмы XX стагоддзя. Моцна ўразіла апісанне часоў Першай сусветнай вайны. Героі кніжкі, як католікі, не падаліся ў бежанства. Не абмінуў іх аднак кашмар вайны, які праяўляўся ў прымусовых працах, да якіх заставілі акупанты. Да працы загналі жанчын і дзяцей, паколькі мужчыны ваявалі на фронце. Ёсць таксама замалёўкі з аўстрыйскай няволі. Уражвае перыяд айчыннай вайны, якая пад Налібоцкай пушчай цягнулася ажно да паловы 50-х гадоў XX стагоддзя. Аповед месцамі напамінае гатовы сцэнарый для фільма.

* * *

Чытачы «Нівы» маюць ужо нейкае ўяўленне пра месцы і людзей, апісаных Марцінам Савіцкім. Гэта дзякуючы Віктару Сазонаву, родам з Ашмяшчыны і яго «Суседскім былям». Я сама вандравала па гістарычнай Віленшчыне, таму ўва мне ад пачатку ўключылася прадчуванне, што сустрэну тут сваіх герояў. Чытацкая інтуіцыя не падвяла. Людзі з Гердушак, Валожына, Юрацішак, Вішнева, Мінска, Гродна — яны наблізіліся светлым вобразам, прамовілі жывым, ласкавым словам. А ўжо сардэчны закалот наклікаў партрэт ксяндза Уладзіслава Чарняўскага, які ў часы савецкай Беларусі як адзіны праводзіў багаслужбы па-беларуску. Якраз пад крылы ксяндза-беларуса патрапілі сваякі і аднапляменцы Марціна Савіцкага. Аўтар апісвае канфліктныя сітуацыі і бунт у парафіі. Але рашучасць ксяндза і адданая служба канчаткова прыводзяць да міру і вялікай пашаны. Сёння адзін са сваякоў аўтара як рэлiквію беражэ Новы Запавет, падараваны ксяндзом Уладзіславам Чарняўскім.

У такі момант разумееш, што кніжка Марціна Савіцкага ўзнікла не толькі з адвагі і цікавасці. Яна нарадзілася з любові да праўды. Лёсы герояў месцамі напамінаюць наш беластоцкі свет з усімі яго адценнямі. Беларускі лёс універсальны. Няважна ці ты праваслаўны, каталік ці пратэстант, — усіх нас яднае беларускае гора.

Гора народа без сваёй мовы і дзяржавы.

Вялікі дзякуй Марціну Савіцкаму!

* * *

Марцін Савіцкі (нар. у 1978 г. у Глагове) — гісторык з акадэмічным і ліцэйскім вопытам. Абараніў доктарскую дысертацыю па гісторыі культуры, датычную ментальнасці эліт беларускіх зямель новага часу. Аўтар навуковых артыкулаў, публікаваных у такіх часопісах як „Acta Wratislaviensis”, „Nasza Przeszłość”, „Wschodni Rocznik Humanistyczny”, „Białoruskie Zeszyty Historyczne”. Ад студэнцкага часу рэгулярна падарожнічае па краінах былога Савецкага Саюза. Жыве ў Свентай Катажыне каля Вроцлава. Аўтар рэпарцёрскіх кніжак, м.інш. *Pestki winorośli i trzy jabłka. Reportaż z podróży do Gruzji i Armenii* (2014) і *Morze światła. Opowieści tadżyckie* (2015), *Ludzkie klepisko. Historie z Pogranicza: Białorusi, Litwy i Polski* (выдавецтва: Paśny Buriat, 2019).

Тэкст і фота
**Ганны КАНДРАЦЮК**




# XXII
## Агульнапольскі конкурс беларускай паэзіі і прозы

**Рэдакцыя „Нівы” і Беларускі саюз у Польшчы аб'яўляюць XXII Агульнапольскі конкурс беларускай паэзіі і прозы «ДЭБЮТ». У конкурсе будуць разглядацца працы грамадзян Польшчы на беларускай мове.**

**ПРЫНЦЫПЫ ЎДЗЕЛЬНІЦТВА**

**1.** Конкурс праводзіцца ў дзвюх узроставых групах:

— I група: дзеці і моладзь пачатковых школ і ліцэяў,

— II група: астатнія ўдзельнікі (выключна аўтары, якія не з'яўляюцца членамі літаратурных творчых саюзаў).

**2.** У рамках груп конкурс праводзіцца ў дзвюх катэгорыях: паэзіі і прозы.

**3.** Конкурсныя працы, набраныя на камп'ютары або разборліва рукапіс у двух экземплярах (паэтычныя творы — 3-5 вершаў, іншыя літаратурныя формы — аб'ёмам да 22 старонак стандартнага машынапісу) трэба падпісаць крыптанімам, пазначыць нумарам узроставай групы і паслаць на адрас: Redakcja „Niwy”, ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok 2, skr. poczt. 84 з прыпіскай на канверце: XXI Ogólnopolski Konkurs Poezji i Prozy Białoruskiej.

**4.** Прозвішча, імя і дакладны адрас аўтара дасланых конкурсных прац трэба памясціць у асобным заклееным канверце, падпісаным звонку такім нумарам групы і крыптанімам, як і конкурсныя працы.

**5.** На конкурс трэба дасылаць творы, якія дагэтуль нідзе не друкаваліся і не ўзнагароджваліся на іншых конкурсах.

**6.** Арганізатары не вяртаюць дасланых твораў.

**ТЭРМІНЫ**

**1.** Тэрмін дасылання да 31 кастрычніка 2019 г. (вырашае дата паштовага штампа).

**2.** Вынікі конкурсу будуць аб'яўлены ў лістападзе 2019 г.

**3.** Уручэнне ўзнагарод адбудзецца на адмысловай сустрэчы. Аб тэрміне мерапрыемства лаўрэаты і астатнія ўдзельнікі конкурсу будуць паінфармаваны і запрошаны прыняць у ім удзел.

Конкурс праводзіцца дзякуючы фінансавай падтрымцы Міністра ўнутраных спраў і адміністрацыі.

## Ёсць такі аўтобусны прыпынак...

...у Новым Ляўкове Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета. Ён пры ваяводскай дарозе № 687 (шлях з Навасадаў у Юшкаў Груд цераз Новае Ляўкова і Нараўку). Жалезны слупок стаіць на зарослай высокай травой абочыне шашы. Няма на ім раскладу язды аўтобусаў. Пасля дажджу ў вытаптаных ямінках стаіць вада. Прыпынак у полі, ноччу не сягае сюды святло вулічнага электраасвятлення. Проста жах!

**(яц)**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Не ведаюць нуды і стомы

фота Ганны Кандрацюк

Год таму яны ставілі спектакль «У мурашынай дзяржаве» з акцёркай Іааннай Троц. І, відаць, гульня ў тэатр не пайшла ў лес. Нашы сябры, як тыя мурашы, моцна шчыравалі на ўроку. Спачатку разблыталі загадку пра таго страўса з апошняй «Зоркі». Яна на кемлівасць. Трэба падумаць і ўключыць уяўленне. У класе адразу пасыпаліся адказы. І два адказы, — іх прыдумалі дзяўчаткі, — патрапілі ў сук (паколькі яшчэ ідзе конкурс, не можам прывесці адказаў на пытанне: Ці можа сказаць страўс, што ён птушка?). Пасля дзеці распавялі пра лясных звяроў, якіх бачылі ў час ляснай прагулкі. Усе яны ведаюць зайцоў, аленяў, сарнаў, ваўкоў, вавёрак, лісак. Як дапаўненне тэмы мы прапанавалі, пад уцеху класа, лясную маляванку.

— Большасць дзяцей адказвае пабеларуску, — кажа настаўніца Аліна Ваўранюк. — Яны таксама добра чытаюць. Вось сёння, пасля канікул, нядрэнна прачыталі новы тэкст з «Зоркі». Гэты клас вельмі актыўны, з ім цікава працаваць.

На ўроках беларускай мовы не ведаюць нуды і стомы. І як не цікава, працуюць паводле творчай, аўтарскай праграмы:

— Я сама ствараю сцэнарый урокаў, падбіраю ім матэрыялы, — кажа настаўніца. — З часам узнікне падручнік для пятага класа, дапасаваны да ўспрымання свету сучаснымі дзяцьмі.

Вучні пятага і чацвёртага класаў захоплены светам беларускага мастацтва. Амаль усе яны танчаць у «Падляшскім вянку», спяваюць у «Баламутках», удзельнічаюць у праекце «Гульня ў тэатр». Ёсць таксама зоркі! Вось галасісты Алесь Хаманюк выконвае галоўную ролю ў музычным спектаклі «Кніга джунгляў», які ставіць Падляшская опера і філармонія.

— На ўроках яны любяць спяваць, чытаць вершы, — дадае настаўніца.

Новыя метады працы, творчы, мастацкі дух заняткаў прыцягваюць добраахвотнікаў у беластоцкую «чацвёрку». Зараз каля сотні дзяцей вывучае беларускую мову.

— З верасня ў нас зноў працуюць два першыя класы, — кажа з гонарам настаўніца. — Адзін клас складаюць выпускнікі беларускага прадшколля. Яны прыходзяць ужо зінтэграваныя, больш падрыхтаваныя. Менавіта такі наш пяты клас.

Урок мінуў непрыкметна, тым больш што ў школе няма званкоў на перапынак.

Нашы сябры таксама адчулі недахоп. Яны паабяцалі неўзабаве завітаць у «Ніву».

**ЗОРКА**

## УВАГА КОНКУРС!
## № 38-19

**У школе пражывае,
шмат гаспадароў мае,
што год іх мяняе
і ўсім дапамагае.**

**Л....**

## Загадкі з роднай хаткі

Разгадайце загадку-пытанне з жартам. Адказ можа быць розны, аднак дасціпны і на тэму. Рашэнне загадкі дашліце ў „Зорку" да 6 кастрычніка 2019 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на загадку № 34: дарога. У гэты раз не было правільных адказаў.**

*Малюнак Клаўдзіі Нікančук*



# Цар гадзюк

*(беларуская, магічная легенда, прымеркаваная да свята Узнясення Крыжа Гасподняга)*

Кажуць, ёсць на свеце цар гадзюк. Яго можна пазнаць па залатых ражках, што выраслі гадзюцы на галаве. Вось, калі б збіць тыя ражкі і насіць іх пры сабе — тады ўсё адкрыта! Можна ісці куды захочаш, усе брамы, замкі адкрываюцца...

Лоўкія зладзеі робяць усё, каб здабыць такія ражкі. Тады іх нельга будзе схапіць і пакараць. Зладзеі маюць свой спосаб, каб прыдбаць залатыя ражкі. Яны ведаюць, што ў дзень Узнясення гадзюкі збіраюцца ў адным месцы, каб разам папаўзці ў вырай. Гадзюкі, як птушкі, маюць свой асабісты вырай. Яны паўзуць пад камандаю цара з залатымі ражкамі.

І ледзь світанак на Узнясенне, спяшаць у лес лоўкія зладзеі. Яны цікуюць на паляне, ля лому. Як толькі ўзыдзе сонца і добра прыгрэе, гадзюкі пачнуць вылазіць з-пад лому і з нор ды паўзуць на сонейка грэцца. Спачатку паўзуць звычайныя гадзюкі, а як пакажацца сам цар, яны пачнуць яго абвіваць, як пчолы сваю матку. Вось тады трэба ўдарыць у клубок поплiскаю. І толькі адзін раз, не больш. Адзін трапны ўдар — цар гадзюк скіне свае ражкі. Трэба іх схапіць і чым хутчэй уцякаць, не аглядаючыся, а то гады загрызуць.

*(Легенда запісана этнографам Сержпутоўскім у вёсцы Бучча на Случынне ад Грышкі Бондара. Сучасная апрацоўка ГК)*

## Дзённік
### Сустрэч «Зоркі» (10)

12 чэрвеня, серада, гадзіна 17:00

Народны паэт, Кастусь Целушэцкі, прызнаўся:

— Для мяне самыя цікавыя ў «Ніве» вершы вучняў з Нараўкі і Міхалова.

Вось, як! Мы прывыклі, што найлепшыя рэчы ствараюць дарослыя людзі. Наш госць любіць слухаць дзяцей, маладых. Да пісання падштурхнула яго ўнучка, якая, будучы вучаніцай Бельскага беларускага ліцэя, сарганізавала для дзедкі аўтарскую сустрэчу з моладдзю. Спадар Кастусь чытаў у Бельску дзве гадзіны.

— Я маю менш школы як мой брат (Янка Целушэцкі — Г. К.), — кажа, — таму пішу проста, па-свойму. Хачу прыгадаць маладым як калісь жылі дзеці, як вучыліся, як гулялі, як дапамагалі бацькам у полі. Усе хацелі чагосьці дабіцца ў жыцці, — сказаў наш госць.

Кастусь Целушэцкі прызнаўся, што рабіў многа арфаграфічных памылак. З-за гэтага не адчуваў сябе добра, саромеўся. Таму ў дарослым жыцці купіў слоўнікі і на працягу года дакладна вывучыў граматыку і стаў пісаць граматна, беспамылкова...

Наш госць — натхнёны грыбнік. Ён вельмі перажывае, калі ў лесе паказваюцца грыбы. Тады некалькі разоў у дзень ходзіць у лес. Любіць таксама паехаць на рыбалку. У такія хвіліны ён адчувае ўсе гукі і колеры прыроды. Тады лягчэй дыхаць і марыць.

А пра што марыць наш герой, паэт-селянін?

— Я шчаслівы, калі мяне запрашаюць у клуб чытаць мае вершы, — кажа сімпатычны спадар Кастусь.

Наш госць, хоць з нікім не дамаўляўся, прыйшоў з такім самым сшыткам, як у сустрэчнікаў. І калі ён чытаў нам вясёлыя вершы з каляровага сшытка, частка з нас думала, каб больш уважна глядзець на пісьменнасць народных паэтаў. Яны — жывы доказ нашай уражлівасці і жыццёвай мудрасці.

Рэд.



**Спадары Кастусь і Янка Целушэцкія ля вогнішча**

## Польска-беларуская крыжаванка № 38-19

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Hałas / Jak | Wiedza | | Li | | Sczyt / Celina | | | |
| | Ulica | | | | | | | Sok / Sanki | |
| Olbrzym | | | | | | | | Kabaret / Ławka | |
| | Wieża | | | Oda | Lipa / Kawa | | | | |
| Źródła | | | | | | | Ar | | |
| | | Nie | Don | | | | Re | | |
| Żyrafa | | | | | | | Mag | | |
| | | Re | | | | | | | |

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 34-2019:**

Спех, лясок, хвоя, ежа, марс, маргінал, вір, кіно, рака, лета. След, мір, хмара, вар, торг, ясік, Ніл, сянданак, сто, клад.

Узнагароды, наклейкі, выйгралі **Адрыяна Красько** з Беластока, **Дам'ян Карнілюк** і **Магда Якубюк** з Бельска-Падляшскага. Віншуем!

### Ларыса Геніюш
## Павучок

Павучок — ткач-ткачок
сеў на тоненькі сучок.
Павуцінне сваё праў
і на голейку сснаваў.
Нітку да ніткі —
камарам на світкі.

# Алімпіяды па беларускай мове — у Польшчы і ў Беларусі

Як хутка ляціць час... Закончыліся канікулы, пачаўся навучальны год, а я ўспамінаю розныя здарэнні, якія адбыліся ў мінулым навучальным годзе, важныя ў жыцці школы, вучняў і маім. Гэта быў першы год маёй працы ў ліцэі, год вельмі складаны, які многаму мяне навучыў. Праца настаўніка гэта не толькі ўрокі. Гэта таксама шмат дадатковых абавязкаў. Адзін з іх — падрыхтоўка вучняў да прадметных конкурсаў і алімпіяд, у тым ліку да Алімпіяды па беларускай мове. Галоўнай тэмай XXV выпуску алімпіяды было „Жыццё і творчасць Максіма Багдановіча”. У цэнтральным этапе алімпіяды прыняло ўдзел 20 вучняў: 13 з бельскага і 7 — з гайнаўскага белліцэяў. Чатыры вучаніцы заваявалі званне лаўрэата. Першае месца заняла Уршуля Амбражэвіч з Бельскага белліцэя, другое — Юлія Банькоўска з Бельскага белліцэя, трэцяе — Ізабэля Карчэўска з Гайнаўскага белліцэя, чацвёртае — Аляксандра Зінкевіч з Бельскага белліцэя. Віншуем усіх лаўрэатаў і фіналістаў алімпіяды!

Кожны год вучняў з ліцэяў у Бельску або Гайнаўцы запрашаць у Беларусь на заключны этап рэспубліканскай алімпіяды па вучэбных прадметах „Беларуская мова” і „Беларуская літаратура”. У 2019 годзе беларускі бок запрасіў вучняў з нашай школы — II Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання імя Браніслава Тарашкевіча ў Бельску-Падляшскім. Трое вучняў Юлія Банькоўская, Аляксандра Зінкевіч і Міхал Казлоўскі мелі магчымасць прыняць удзел у алімпіядзе ў Беларусі. Яны ўсе ўдзельнікі Алімпіяды па беларускай мове ў Польшчы.










Першыя пытанні: калі і дзе? Алімпіяда мела працягвацца некалькі дзён, з 25 па 29 сакавіка 2019 года ў Магілёве. Мы ўсе падумалі: «Так далёка?!». Афармленне ўсіх спраў патрабавала многа часу і намаганняў, але дзякуючы дапамозе Культурнага цэнтра Беларусі ў Польшчы ўжо 24 сакавіка ўся наша група сядзела ў цягніку Брэст-Магілёў. Дарога далёкая. Нам усё было цікава, таму што першы раз падарожнічалі на беларускім цягніку. Мы правялі ў ім восем з паловай гадзіны. На месца прыехалі ў 23:04 беларускага часу. Там чакаў нас сюрпрыз. На вакзале арганізатары сустрэлі нас караваем і соллю. Мы не чакалі такога цёплага прывітання. Нам усім было вельмі прыемна. Мы жылі ў інтэрнаце Магілёўскага прафесійнага электратэхнічнага каледжа. Іншыя каманды прыехалі ў панядзелак. Тады ў нас была магчымасць пазнаёміцца з кіраўнікамі каманд і ўдзельнікамі алімпіяды з усіх абласцей Беларусі. Кожная каманда мела свайго куратара. Нашым куратарам была спадарыня Алена Анатольеўна Верабʼёва. Яна адказвала на ўсе нашы пытанні, рашала праблемы, ва ўсім дапамагала. Беларусь — краіна добразычлівых людзей. Я таксама чарговы раз пераканалася, што будучы ў Беларусі чалавек ніколі не будзе галодны. Кожны дзень мы снедалі, абедалі і вячэралі ў сталовай электратэхнічнага каледжа.

Мы атрымалі праграму правядзення заключнага этапу алімпіяды. Там усё было падрабязна запланавана, кожны дзень з раніцы да вечара. Праграма з першага дня была вельмі насычанай. Быў час для спаборніцтваў, навукі, адпачынку і культурных мерапрыемстваў. Можна было таксама пазнаёміцца з гісторыяй Магілёва і даведацца крыху пра сучаснасць горада. Мы даведаліся, між іншым, што Магілёў — адміністрацыйны цэнтр Магілёўскай вобласці. Размешчаны на скрыжаванні найважнейшых транспартных магістраляў, якія злучаюць яго з Расіяй, Украінай, Прыбалтыкай і Польшчай. З паходжаннем горада звязана мноства легенд. Паводле адной з іх, Магілёў узнік на беразе Дняпра, дзе быў пахаваны разбойнік Машэка. Паводле легенды там, дзе зараз стаіць Магілёў, у глыбокай старажытнасці быў дрымучы непраходны лес. Жыхар вёскі лесарубаў і сплаўшчыкаў лесу Машэка, які быў заручаны з нявестай Наталькаю, сплаўляў лес да Кіева. А ў гэты час князь Мсціслаўскі, з роду віцебскіх князёў, сілком захапіў яго нявесту і зрабіў сваёй жонкай. Пасля гэтага Машэка стаў атаманам разбойнікаў, якія бязлітасна рабавалі ўсіх гандляроў-купцоў, якія вазілі тавары па Дняпры. Паводле легенды, Машэка быў чалавекам незвычайнай сілы, мог з каранямі вырываць дрэвы, сваімі рабаваннямі і разбоямі ён наводзіў жах на жыхароў навакольных вёсак. Аднак, непрыступны і грозны для многіх Машэка стаў ахвярай жаночага каварства. У рэшце рэшт, ганяючыся за князем, які пакрыўдзіў яго. Машэка злавіў яго разам з жонкай, былой сваёй нявестай. Князя павесіў, а Натальку прывёз у свой табар. Але, прызвычаўшыся да раскошнага княжацкага жыцця, яна ўначы, калі Машэка спаў, забіла яго нажом. Месца, дзе яго быццам бы пахавалі, і атрымала назву „Магіла Льва”.

Мы даведаліся таксама, што дата заснавання Магілёва — гэта 1267 год. У XVII стагоддзі Магілёў па багацці і па колькасці жыхароў саступаў толькі сталіцы Вялікага Княства Літоўскага — Вільні. З 1569 года Магілёўшчына ў складзе новай дзяржавы — Рэчы Паспалітай. „Залаты век” горада скончыўся ў перыяд Паўночнай вайны. У 1708 годзе горад быў спалены Пятром І. Гістарычнай спадчынай таго часу зʼяўляецца Свята-Мікольская царква — адзіны захаваны храм ва Усходняй Беларусі, пабудаваны ў стылі віленскага барока.

У выніку падзелу Рэчы Паспалітай Магілёўшчына адышла да Расійскай імперыі. У 1919 годзе была створана новая дзяржава — Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка (БССР). Усе гэтыя дзяржавы пакінулі след у абліччы горада.

Легендарнай старонкай у гісторыю Вялікай Айчыннай вайны ўвайшла абарона Магілёва, якая працягвалася 23 дні (з 3 па 26 ліпеня 1941 года). Канстанцін Міхайлавіч Сіманаў быў сведкам шматдзённай гераічнай абароны горада. Гэта пакінула глыбокі след у жыцці пісьменніка. Магілёву прысвечаны многія старонкі яго кніг: „Жывыя і мёртвыя”, „Салдатамі не нараджаюцца”, „Апошняе лета”, „Розныя дні вайны”. Па завяшчанні пісьменніка на Буйніцкім полі развеяны яго прах.

У памяць аб мужнасці і подзвігу герояў адкрыты мемарыяльны комплекс „Буйніцкае поле”.

Сучасны Магілёў — буйны індустрыяльны горад, які дынамічна развіваецца. У горадзе працуе вялікая колькасць прамысловых прадпрыемстваў, абʼяднанняў. Ён займае першае месца па вытворчасці хімічных валокнаў, электрарухавікоў, зʼяўляецца адзіным вытворцам ліфтаў у рэспубліцы.

Магілёў — гэта таксама культурны цэнтр. Там знаходзіцца абласны драматычны тэатр — адзін з найстарэйшых у Беларусі. Ён быў пабудаваны ў 1888 годзе на грошы жыхароў горада.

У Магілёве штогод праводзяцца міжнародныя, абласныя, раённыя фестывалі і святы. Візітнымі карткамі горада сталі міжнародныя фестывалі эстраднай музыкі „Залаты шлягер”, хрысціянскай духоўнай музыкі „Магутны Божа”, міжнародны пленэр па жывапісе імя Вітольда Бялыніцкага-Бірулі, міжнародны кінафестываль анімацыйных фільмаў „Анімаёўка”. Кожны год у Магілёве праходзяць канферэнцыі „Куляшоўскія чытанні”, „Гісторыя Магілёва: мінулае і сучаснасць”.

У панядзелак 25 сакавіка мы прынялі ўдзел ва ўрачыстай цырымоніі адкрыцця алімпіяды. Апрача афіцыйнай часткі была таксама культурная. Усё было цікава, прыгожа, вачэй не адарваць. Вучням і мне было вельмі прыемна, калі мы атрымалі падарункі, падрыхтаваныя арганізатарамі. У аўторак 26 сакавіка пачалася алімпіяда. Першы тур гэта было напісанне водгуку. Потым мы наведалі Магілёўскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Аркадзя Куляшова. У сераду 27 сакавіка, у рамках другога тура алімпіяды вучні выконвалі комплексную работу. Потым была аглядная экскурсія па Магілёве. Мы ўбачылі, між іншым, касцёл св. Станіслава, драматычны тэатр, гарадскую ратушу. Мы наведалі таксама вучэбную лабараторыю „Заасад” у Буйнічах. У чацвер 28 сакавіка, апошні дзень спаборніцтваў, вучняў чакалі вусныя выказванні. Вечарам у Магілёўскім абласным тэатры лялек мы глядзелі пастанову „Дзівосныя авантуры паноў Кубліцкага ды Заблоцкага”. Наша група развіталася з Магілёвам у пятніцу 29 сакавіка пасля ўрачыстай цырымоніі закрыцця алімпіяды. Усе нашы вучні — Юлія Банькоўская, Аляксандра Зінкевіч і Міхал Казлоўскі — атрымалі пахвальныя водзывы.

Чым для мяне зʼяўляецца Беларусь? Гэта краіна васількоў, лясоў, цудоўнай прыроды, цёплых, добрых, гасцінных людзей. Магчымасць пабываць у Беларусі ў мяне была ўжо некалькі разоў — наведала я Мінск, Гродна, Брэст, Мір, Нясвіж... У Магілёве я была першы раз, але маю надзею, што не апошні. Кожны дзень там праведзены быў цікавы, даў новыя ўражанні. Дзякуй, Магілёў, за ўсе цудоўныя моманты! Да новых сустрэч!

Тэкст і фота **Анны ДЭМʼЯНЮК**

# Нашы шкадавалі жыдоў

**Размова з Марысяй АДЗІЕВІЧ, у дзявоцтве Рынгайла, 1930 года нараджэння з Орлі. Спадарыня Марыся цягам дзясяткаў гадоў выступала ў калектыве „Арляне”, а ўспамінае жыццё ў міжваенны перыяд.**

**— Школа?**

— У 1938 годзе пайшла я ў школу, хадзіла адзін год. У 1939 годзе ўспыхнула вайна. У 1940 годзе саветы вярнулі да паловы першага класа; вучылася два гады. Жыды таксама хадзілі. А пры немцах жыдоў не было. Нас вучылі рахункаў, „таблічкі” і вершы вучыў Лашкевіч. Нямецкай мове вучыла Раіса Давідаўна.

**— Ці помніце арлянскіх жыдоў?**

— Наша хата была паміж жыдоўскімі на рагу вуліц Бельскай і Крывой. Побач была малая кафлярня Вайштынаў. (Вялікая была ў канцы Орлі — М. М.)

Першым побач нас, з боку рынку, жыў жыд Юдэль, сталяр. Далей было пустое месца, а за ім жыла недаразвітая жыдоўка Шоша. (Было многа недаразвітых жыдоў, і то маладых.) То хрысціянскія дзеці хадзілі туды дражніцца з ёю праз акно, а яна ляжала. Да яе прыходзілі жыды, мылі яе, кармілі і апраналі. За Шошай была новая кафлярня.

Памятаю, як у шабас — у пятніцу пад вечар — жыд Патлер — быў недаразвіты — бегаў па вуліцах Орлі, спыняўся і галасна крычаў: „Шула гай” (Ідзі ў школу-сінагогу маліцца).

Хадзіла я на жыдоўскія паховіны, кожнага жыда хавала. Стукалі скарбонкай, калі хавалі, ішла адна жанчына. А я, як дзіця, думала тады, каб мець тыя грошы, што ў скарбонцы.

**— Ці Ваша сям'я мела дачыненні з жыдоўскімі шаўцамі?**

— Памятаю многіх жыдоўскіх рамеснікаў: Шумахер, Пінко, Гэршко, Юдэль. Вядомы быў Гацкель. У шаўцоў Шумахера і Гэршка працаваў мой бацька Коля. Гэршкавай жонкай была Бэйла — то былі вельмі добрыя жыды. Мы яго папросту называлі дзедкам. Бацькаў брат Валодзя таксама працаваў шаўцом у жыда. Валодзя быў жанаты з жыдоўкай Шыфрай, у 1940 годзе нарадзілася ім дзяўчынка, я яе яшчэ пільнавала.

Па вуліцы Крывой жыў рабін. Па вуліцы Бельскай, недалёка ад нас, жыў жыд Вадзілоўскі; у яго адбываліся танцавальныя забавы. Далей, дзе Чыквін, Абрамко Тапалянскі.

**— Ці Вы запамяталі вялікі пажар Орлі 18 мая 1938 года?**

— Мы тады жылі пры Бельскай вуліцы, паміж жыдамі. І пажар з 1938 года маю і сёння ў вачах.

Наша хата ацалела, бо побач была кафлярня і кафляры ўратавалі. Кафлярня побач нас ужо гарэла; збегліся туды кафляры. Былі там такія ямы для ачышчання ад глею гліны. І адны тушылі кафлярню, а другія мачылі шматы ў той глеістай гліне і абкладвалі страху нашай хаты. І такім чынам уратавалі нашу хату.

Пажар пайшоў далей. У нашым агародзе стаяла дзедкава хатка і побач быў хлеў з сабачай будкай. То згарэлі хлеў, сабака, дзедкава хата і агонь пайшоў далей.

**— Ці была дапамога пагарэльцам бульбай?**

— А хто гэта выдумаў? Жыды хутка адбудаваліся, мелі дапамогу з Амерыкі. Пасля пажару ў майго будучага цесця Філіпка жыла жыдоўская сям'я; былі там тры дзяўчыны, я тых жыдоў знала, памятаю.



Марыя Адзіевіч трымае памятную жыдоўскую хустачку; спераду жыдоўскія падсвечнікі і сярэбраны келіх

На вушаку дзвярэй да сёння астаўся знак, дзе была прымацавана скрыначка (футляр з мезузай — скруткам пергаменту з запісанымі фрагментамі Торы, наўскасяк прыбітая да вушака — М. М.)

**— А што Вы запамяталі пра саветаў?**

— Бачыла, як Врублеўскіх — сям'ю загадчыка школы — вывозілі ў Сібір. Вывозілі іх раніцай, то я бегла за тым грузавіком і крычала, бо вывозілі маю настаўніцу. І забегла аж у рынак, дзе была такая доўгая крама і жыла там жыдоўка Рыўка, якая са мною хадзіла ў школу. Забегла да яе і крычу, што нашу паню вывозяць. А маці Рыўкі: „А што ж, то нэхай вывозят”. То я пабегла ў школу, дзе Врублеўскія жылі — пабачыць, што там дзеецца. Там усё было раскідана — рэйвах! Знайшла ў малой рамачцы здымак Весі ці Данусі, то ўзяла. Вяртаючыся, зайшла яшчэ ў будынак суседняй каталіцкай капліцы. Звонку была пабіта фігура Маткі Боскай. А ўсярэдзіне валялася жалезная лампадка з анёлкам, то яе ўзяла; потым аддала яе католікам Дэмбарукам.

**— Саветы таксама агітавалі выязджаць...**

— Рабілі спісак. І мой бацька Мікалай таксама запісаўся. А мама Вера сказала, што нікуды не паедзе. І не паехалі, і нічога не зрабілі.

Выехала (апрача сем'яў Мураўскіх і Альшэўскіх — М. М.) яшчэ Марта Заянчкоўская з дочкамі Оляй, Нінай і Маняй. Была ўдавіцай; яе муж быў вядомым майстрам, будаваў арлянскі млын і вялікі дом побач, вялікую школу — зараз там каталіцкая капліца. Калі я з калектывам „Арляне” была ў Гродне, то сустрэлася з Нінай, працавала яна нават у сельсавеце.

**— А якіх жыдоў вывезлі саветы, апрача сям'і Вайштынаў, уладальнікаў кафлярні і зямельнага маёнтка?**

— Вывезлі частку сям'і Ізбуцкіх. Памятаю Шымана Ізбуцкага, быў гэта вельмі стройны хлопец.

Было так, што цераз Орлю вялі нямецкіх палонных, канваіравалі іх савецкія салдаты і ў іх ліку быў Ёсаль Ізбуцкі. І гэтае войска пасля пайшло на фінскую вайну. Затрымаліся ў Орлі каля тагачаснай гміны. А мы, дзеці, там стаялі, бо як саветы елі, то і нас нечым частавалі, давалі кашу. І выклікалі прозвішчы Ізбуцкі і Рэнгайла (нейкі наш сваяк), але я аб тым позна паведаміла бацькоў і яны адышлі з войскам.

Саветы вывезлі жыдоў Капланьскіх; магчыма, што былі гэта браты (Выжыў Ізраэль Капланьскі — М. М.). Іх вывезлі за тое, што гандлявалі мясам.

І яшчэ саветы вывезлі жыда Зайчыка. (Мне гэтае прозвішча невядомае, але вядома, што выжыў яшчэ жыд Мошэ Беркман — М. М.) І як пасля вайны вярнуўся ў Орлю, то быў у нас; прыязджаў наведаць бацьку. Але адкуль ён вярнуўся — не ведаю.

І яшчэ прыязджала жыдоўка з сям'і, якіх тут называлі Мошка Сморк. Ягоная прыгожая дачка выйшла замуж за капітана ў 1940 годзе, калі ў Орлі стаяла савецкае войска; той капітан таксама быў жыдам. Ажаніўся і яшчэ паспеў яе выслаць некуды за граніцу. А пасля вайны яна сюды прыязджала, была ў нас дома, размаўляла з маёй мамай Верай. Яны зналіся, абняліся, пацалаваліся, яна вельмі плакала. А мама кажа: „Не плач, іх усіх у Палесціну завезлі”. А яна адказвае: „Пані Колёва, іх усіх павезлі ў печкі і папалілі”. Яна таксама выехала ў Амерыку або Палесціну.

**— Ці Вы запамяталі гета?**

— Гета было абгароджана плотам, але былі такія прыхаваныя пралазы. І жыды прыносілі туды соль, газу, а нашы насілі цяляціну, але толькі задкі (перадкоў жыды не елі, але пасля магло быць парознаму — М. М.). Была на гэта дамова з нашымі шуцманамі.

Яшчэ перад пабудовай гета па-суседску з намі жыла жыдоўка „красельніца”. То як ужо мелі іх выганяць, то прынесла нам на пратрыманне мужчынскі касцюм (у яе быў сын) і паліваныя гаршкі, вялікую міску. А калі адыходзілі ў гета, то яна тое ўсё забрала з сабою.

З гета прыйшла да нас жыдоўка Доба і прынесла ніткі для вышывання кажухоў, палатно. Я і сёння яе памятаю — стаіць у мяне перад вачыма.

Гета зліквідавалі, паводле мяне, у 1943 годзе (друкаваныя крыніцы падаюць, што ў 1942 годзе — М. М.)

Жыдоўка Бэйла з Міклашоў ішла ў лагер (была замужам за праваслаўным Паўлам Гонтам). Я бачыла. Як Орлю вывозілі, то я ж мусіла пайсці аж на канец Орлі, пад крыж, каб пабачыць. Там жыды затрымаліся пры дарозе ў Міклашы, затрубіла трубка. І я бачыла, як Бэйла ішла і цешча Параска вяла яе трое дзяцей. Бэйла была абвязана хусткай і несла нейкі клуначак. Як дайшла да той калоны, то абнялася з Параскай і пайшла ў паход. А дзеці на фуру. Расказвалі людзі з Міклашоў, што прасілі яе, каб хаця дзяцей пакінула ў вёсцы, а яна не схацела. (Паводле расказаў Аляксандра Орды з Міклашоў, па Бэйлу прыйшлі ў Міклашы яе бацька і брат. У гета яна не была, а ўвесь час жыла свабодна ў Міклашах — М. М.)

**— Сумная была вывазка жыдоў...**

— Нашы людзі шкадавалі жыдоў, плакалі. То ж разам хадзілі ў школу, пасля пажару жылі ў адных дамах, жыды маліліся па-свойму ў нашых дамах, хрысціяне хадзілі да жыдоўскага лекара.

**— І калі жыдоў вывезлі...**

— Як жыдоў вывезлі і людзі цягнулі рэчы з гета, бо не мелі ў што апрануцца, абуцца, то нямецкі камісар Сандэцкі, які валодаў польскай мовай, сказаў: „А хто па вас будзе браць?” Я сама гэта чула, бо стаяла каля яго, каля гета. Да Сандэцкага мы, дзеці, хадзілі калядаваць.

**— Асталіся толькі ўспаміны.**

— Была ў мяне каляжанка Маля, дачка Янкеля Бушміца, які меў ветравы млын у канцы Орлі. Маля размаўляла чыста па-нашаму.

Калісь натрапіла я на такую перадачу, дзе вычытвалі імёны і прозвішчы тых жыдоў, што былі страчаны ў лагеры смерці ў Трэблінцы. Ты ведаеш, што я сядзела цэлы дзень і адно імя было менавіта Маля Бушміц. Бо чула Рыўку і іншых, то хацела ведаць...

Знала Рыўку і Бэцю — дачку аптэкара, знала сына Ляцкага (бацька быў бухгалтарам, а брат — дантыстам).

Захоўваю памятку па жыдах. Гэта насавая хустачка, вышываная ў аздобныя кветкі. Мне яна вельмі цэнная. Я яе, будучы дзіцём, прынесла з гета, як немцы жыдоў выганялі. Тады людзі бегалі па гета і разбіралі тое, што яшчэ асталося. Хустачка мае 77 гадоў — столькі я яе перахоўваю, а мае напэўна больш. І я яе берагу. Яна спачатку ляжала ў мяне ў стэлажы. Памыла яе і цяпер перахоўваю складзеную ў „костку”. Я табе яе падарую, рабі што ўважаеш. (Перадам хустачку нашчадкам арлянскіх жыдоў з Ізраіля — М. М.)

**— Вельмі дзякую за размову.**

Размаўляў і фатаграфаваў
**Міхал МІНЦЭВІЧ**

PS. У доме спадарыні Марыі Адзіевіч, дзе пасля пажару 18 мая 1938 года жыла прыгорнутая жыдоўская сям'я, захаваліся таксама два падсвечнікі, малы і вялікі, ды сярэбраны малы келіх з выгравіранай Зоркай Давіда. Верагодна былі яны ўласнасцю той жыдоўскай сям'і, што жыла ў тым спагадлівым хрысціянскім доме. Гэта малітоўныя аксесуары неабходныя для штодзённых малітваў у шабас і святы. Над келіхам віна гаварылася падзячная малітва кідуш (іўр. асвячэнне).

1 ☞ працяг

## Так набліжалася вайна

пункту гледжання гэта было немагчыма — Савецкі Саюз не меў супольных межаў з Чэхаславакіяй. Французы шукалі нейкага паратунку, нейкага выхаду са сваёй тупіковай сітуацыі. Англічане таксама толькі ў 1938 годзе пачалі мяняць дзяржаўны бюджэт, каб неяк дафінансаваць армію; яны зусім не былі гатовы да вайны. Гітлераўская Нямеччына, якая парвала ўсе трактаты, якія раней падпісала, будавала вялікую армію. Але ў Нямеччыне была адна праблема — Гітлер, калі прыйшоў да ўлады, абяцаў усім працу і нейкую сацыяльную бяспеку; і гэта яму ўдалося. Сапраўды, немцы паверылі ў тое, што прыйшоў нейкі геній. Вялікі крызіс пачатку 1930-х гадоў, які дайшоў да Еўропы, вельмі жахліва паўплываў на сітуацыю немцаў — ніводзін немец не быў упэўнены, ці ён заўтра будзе мець што есці. І прыйшоў Гітлер і паказаў, што ўсё можна. Толькі ўсё гэта адбылося пры раскрутцы цяжкай прамысловасці, якая прадукавала самалёты, танкі і т.п. І ў канцы канцоў немагчыма прадукаваць танкі, калі іх не выкарыстоўваць, і Гітлер шукаў спосабу вырашэння гэтай праблемы. Да таго ж нямецкая зброя апераджала ўзбраенне іншых краін. Таму немцы рыхтаваліся да вайны. Было пытанне: што рабіць, у якім напрамку? План быў просты — стварыць прастору для жыцця нямецкай нацыі на ўсходзе Еўропы. Толькі немцы не былі ўпэўнены, як будуць весці сябе французы і англічане, калі немцы, скажам, будуць змагацца з Расіяй. Як перайсці Польшчу, якая не пагадзілася стаць пратэктаратам, зонай нямецкіх уплываў? Было ясна, што калі не Усход, то будзе Захад. Калі ў Польшчы задумваліся, які прыняць варыянт палітыкі, ці змірыцца з немцамі, англічане далі Польшчы гарантыю мілітарнай дапамогі; гэта быў красавік 1939 года. І ад красавіка 1939 года палітыка Польшчы мяняецца — ніякіх тэрытарыяльных уступак немцам. Англічане разлічвалі на тое, што Польшча будзе бараніцца некалькі месяцаў, можа даўжэй, што Польшча мае вялікую армію, а ў немцаў няма такіх магчымасцей, каб яе разграміць. Англічане свядома накіравалі Польшчу на канфрантацыю з Нямеччынай. І былі таксама свядомы, што ніякай дапамогі Польшчы даць не могуць — зусім не былі да гэтага падрыхтаваны — каб весці вайну ў Еўропе. Яны лічылі, што польска-нямецкая вайна зацягнецца і выматае нямецкія сілы. Англійская палітыка выкарыстала Польшчу, каб сабе падрыхтавацца да вайны з Нямеччынай. Вяліся нейкія перамовы з Савецкім Саюзам з удзелам Вялікабрытаніі і Францыі ў 1939 годзе, толькі атрымалася так, што Гітлер усіх абдурманіў і пайшоў на дагавор са Сталіным, якога доўгімі гадамі прадстаўляў як свайго галоўнага ворага — а сваёй сусветнай місіяй лічыў знішчэнне камунізму. Ён паўтараў гэта з часу, калі змагаўся за ўладу, калі дайшоў да ўлады. І раптам на працягу некалькіх тыдняў мяняецца тая рыторыка. Зразумела, Польшча была заатакавана першай. Гітлер быў упэўнены, што калі б заатакаваў Захад, то Польшча найверагодней выканала б свае саюзныя дагаворы ў адносінах да Францыі ці Вялікабрытаніі. І быў таксама ўпэўнены, што нічога не зробіць Англія, а без Англіі нічога не зробіць Францыя; Францыя не вяла сваёй самастойнай палітыкі — яна цалкам арыентавалася на англійскую палітыку. Таму і такі дзіўны пачатак вайны 1939 года.

У той момант не было і цеснага супрацоўніцтва заходнееўрапейскіх дзяржаў са Злучанымі Штатамі Амерыкі, Амерыка праводзіла палітыку нейтралітэту. Удзел Амерыкі ў Першай сусветнай вайне прынёс затраты некалькіх соцень тысяч салдат. І ў амерыканскім грамадстве ўзнікала слушнае пытанне: чаго мы рваліся ў тую Еўропу? Там быў заўсёды хаос, які ніколі і не закончыцца. І ніколі больш да еўрапейскіх канфліктаў. Кіруючыя амерыканскай палітыкай былі вымушаны ўчыніць шмат намаганняў для перакanання свайго грамадства і даць магчымасць Японіі, каб дапамагла. Ну, калі ўжо ЗША ў снежні 1941 года былі заатакаваны — не было выхаду.

**— А як Савецкі Саюз быў гатовы на захоп часткі Польшчы 17 верасня 1939 года?**

— Армія была гатовая; пасля падпісання пакта Рыбентроп-Молатаў саветы правялі ціхую мабілізацыю і для захопу Польшчы былі дастатковыя сілы і сродкі. Толькі ў савецкім кіраўніцтве не было ўпэўненасці, што зробяць Англія і Францыя. Але калі стала вядома, што ніякай вайны Англіі і Францыі з Нямеччынай не будзе, тады і Расія перастала апасацца, што яна сканфліктуецца з Англіяй і Францыяй. І Расія не была ўпэўнена ці Японія заатакуе Расію ці Амерыку. Доўгі час японцы не вырашылі гэтай праблемы: каго заатакаваць — ці разам з немцамі Расію. Але расійская разведка ў Японіі дала добрыя інфармацыі, а спроба Японіі ваяваць з Расіяй закончылася вялікай перамогай расійскай арміі на Халхін-Голе. І Японія вырашыла, што тут няма за што змагацца. 16 верасня, дзень да наступу на Польшчу, было падпісана перамір'е паміж СССР і Японіяй. Значыць, на ўсходзе Расія атрымала гарантыю нейкай бяспекі і Савецкі Саюз мог поўнасцю ангажавацца ў еўрапейскую палітыку. Тут у савецкага кіраўніцтва было шмат нявырашаных праблем, м.інш. Бесарабія. Пакт Рыбентроп-Молатаў ужо рэгуляваў, што Бесарабія, якая належала нямецкаму саюзніку — Румыніі, будзе ўсё-такі аддадзена Савецкаму Саюзу. Асноўным жа быў дагавор у справе падзелу Польшчы. Толькі спачатку падпісалі, што мяжа паміж СССР і Нямеччынай будзе на Вісле, адно складана было знайсці нейкае прапагандысцкае апраўданне гэтаму. Таму было вырашана, што мяжа будзе на керзанскай лініі, а немцы могуць узяць усё, што на захад ад яе, але Германія павінна адмовіцца ад Прыбалтыкі, якая такім чынам апынулася ў зоне савецкіх уплываў, а не як раней дамаўляліся — у нямецкай. Савецкі Саюз выпатрабаваў сабе Прыбалтыку, аддаючы немцам тэрыторыю Польшчы на ўсход ад Віслы, з якою немцы не надта ведалі што зрабіць.

**— Дзякую за размову.**

Тэкст і фота
**Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**




## https://hrodna.life/

Сярод буйных гарадоў Беларусі, якія маюць сапраўды цікавыя і змястоўныя сайты, з найлепшага боку вызначаецца блізкая да Беластока Гародня. У нулявыя гады цяперашняга стагоддзя, калі інтэрнэт на нашых абшарах яшчэ толькі „ўставаў на ногі", там ужо былі парталы, што распавядалі пра жыццё гэтага горада і важнейшыя падзеі ў ім. Прычым інфармацыя была не афіцыёзная, а незалежная і беларусаарыентаваная. Пра адзін з такіх сайтаў — „Твой стыль" роўна 12 гадоў таму пісала „Ніва" ў нумары ад 12 жніўня 2007 года.

Але ўсё цячэ і ўсё змяняецца, і на сайце „Твой стыль" больш няма сучаснай інфармацыі, бо ад 2016 года яго замяніў сайт Hrodna.life, які месціцца ў сусветным павуцінні па аднайменным адрасе. У параўнанні з „Тваім стылем" сайт-працяг выглядае больш салідна і выразна. „У 2007-2016 гадах мы працавалі пад брэндам „Твой стыль" — заходзь на наш стары сайт-архіў, каб знайсці мноства тэкстаў, што і сёння не страцілі актуальнасці", — прапануюць уладальнікі **Hrodna.life**, ставячы там жа гіперспасылку на сваё ранейшае інтэрнэт-выданне.

Разам з тым асноўная накіраванасць іх працы не змянілася, і новы сайт, як і папярэдні, распавядае пра Гародню, „пра жыццё горада і жыццё ў горадзе". „Мы трымаем руку на пульсе Гродна і кожны дзень пішам пра важныя гарадскія падзеі ды тых, хто ў гэтым горадзе жыве. Мы пішам пра дасягненні і праблемы Гродна і гродзенцаў, разважаем, як зрабіць горад лепшым, публікуем унікальныя гістарычныя матэрыялы, якіх няма больш ні ў кага. На Hrodna.life мы збіраем свежыя навіны гарадскога жыцця толькі з праверавых крыніц ды публікуем уласныя аўтарскія артыкулы, рэпартажы, інтэрв'ю, агляды і г.д", — распавядаецца на старонцы „Пра нас".

Сваё місіяй аўтары тэкстаў на Hrodna.life бачаць адлюстраванне важных падзей у горадзе, Беларусі і свеце, пра дасягненні і праблемы Гародні і гарадзенцаў, пра гісторыю і сучаснасць горада ў кантэксце беларускай краіны і свету, пра тое, як зрабіць горад лепшым для жыхароў, і разам з імі змяняць яго да лепшага.

Пра тое, што дадзены гарадзенскі сайт вельмі насычаны інфармацыяй, можна ўпэўніцца ўжо на галоўнай яго старонцы, якая выглядае як мазаіка разнастайных тэкстаў і фотаздабленняў да іх.

Уверсе галоўнай старонкі знаходзяцца выйсці на рубрыкі. Іх не вельмі многа — усяго пяць: „Навіны", „Артыкулы", „Афіша", „Турыстычная карта" і ўжо згаданая „Пра нас". Калі з імі знаёмішся, з прыемнасцю адзначаеш, што сайт жыве, абнаўляецца і актуалізуецца. Так, апошняя навіна сапраўды ёсць апошняй, бо тычыцца менавіта апошніх падзей, а не падзей тыднёвай ці нават месячнай даўніны.

Найбольш насычанай інфармацыяй з'яўляецца рубрыка „Артыкулы". Гэта, у прыватнасці, з-за таго, што ў ёй некалькі падрубрык, падзеленых тэматычна. Так, падрубрыка „Горад" змяшчае артыкулы пра гарадскія забудовы, новыя кавярні ці погляды на тую ці іншую гарадскую прастору. „Людзі і справы" пазнаёміць нас з тымі гарадзенцамі, чым дзейнасць выклікала цікавасць у Hrodna.life. „Здароўе і спорт" распавядае пра спартовыя спаборніцтвы і розныя акалічнасці гарадзенскага спартовага жыцця. „Спадчына" — гэта артыкулы, якія датычныя тамтэйшай гісторыі, а „Сэрвісы" — інфармацыя пра тое, што робіць Гародню камфортным для жыцця горадам.

**Аляксандр ЯКІМЮК**

Дата з календара

Дата з календара
Дата з календара
Дата з календара
Дата з календара



## 70 гадоў з дня нараджэння
# Генадзя Карпенкі

Беларускі грамадска-палітычны дзеяч, навуковец Генадзь Карпенка нарадзіўся 17 верасня 1949 г. у Мінску. У 1987 г. стаў дырэктарам Маладзечанскага завода парашковай металургіі. У 1990 г. абараніў доктарскую дысертацыю па тэхналогіі матэрыялаў. Як навуковец зрабіў 50 вынаходніцтваў, укараненых у 15 краінах свету. У 1994 г. абраны членам-карэспандэнтам Акадэміі навук Беларусі. Ўганараваны Дзяржаўнай прэміяй.

У час першых дэмакратычных выбараў у парламент перамог на сваёй акрузе. Атрымаў пасведчанне дэпутата Вярхоўнага Савета 12-га склікання, дзе кіраваў камісіяй па навуцы і навукова-тэхнічным прагрэсе. У 1992 г. узначаліў Маладзечанскі гарвыканкам і за два гады правёў у горадзе эканамічныя рэформы, запачаткаваў музычны агульнабеларускі фэст нацыянальнай песні і тэатральны фестываль „Сакавіца", стварыў футбольны клуб. Сам пэўны час быў футбольным суддзёй. Быў сапраўдным рэфарматарам, карэнным чынам дэсаветызаваў гарадскую тапаніміо Маладзечна. У гэтым горадзе з'явіліся вуліцы Вялікі Гасцінец (замест Леніна), Грамадоўская, імя Францішка Скарыны, Язэпа Драздовіча... Была заключана супраца Маладзечна з нямецкім горадам-пабрацімам Эслінген. У 1994 г. Карпенка вылучаў сваю кандыдатуру на першых прэзідэнцкіх выбарах, але не знайшоў падтрымкі сваёй партыі і ў выніку не балатаваўся.

У 1996 г. Генадзь Карпенка, тагачасны намеснік старшыні Вярхоўнага Савета ўжо 13-га склікання, кіраваў працэсам імпічменту прэзідэнта Лукашэнкі. У 1998 г. Карпенка стаў на чале Нацыянальнага выканаўчага камітэта, створанага перад заканчэннем легітымнага тэрміну кіравання Лукашэнкі. Генадзь Карпенка ўваходзіў у Аб'яднаную грамадзянскую партыю, быў аўтарытэтным лідарам беларускай апазіцыі і лічыўся найбольш верагодным кандыдатам ад дэмакратычнай супольнасці на наступных прэзідэнцкіх выбарах.

31 сакавіка 1999 г. Генадзь Карпенка быў дастаўлены ў 9-ы мінскі клінічны шпіталь з дыягназам „крывацёк у мозг". 1 красавіка яму зрабілі аперацыю па выдаленні гематомы. Усе гэтыя дні знаходзіўся ў рэанімацыйным аддзяленні шпіталя без прытомнасці. Генадзь Карпенка памёр а 7-й гадзіне раніцы 6 красавіка. Яму было толькі 49 гадоў.

Смерць палітыка была зусім нечаканай, бо перад гэтым ён ніколі не скардзіўся на дрэннае здароўе. Генадзь Карпенка памёр за месяц да альтэрнатыўных прэзідэнцкіх выбараў, прыхільнікі праўлення якіх адмовіліся прызнаць навязаныя Лукашэнкам змены ў Канстытуцыі, што незаконна працягвалі тэрмін яго паўнамоцтваў яшчэ на два гады. Праз месяц пасля смерці Карпенкі бясследна знік адзін з яго найбліжэйшых паплечнікаў — Юрый Захаранка, яшчэ праз паўгода другі — Віктар Ганчар. Многія людзі, у тым ліку сваякі Карпенкі, схільныя звязваць гэтыя трагічныя падзеі ў адзін ланцуг. Паводле адной з версій напярэдадні цяжкага інсульту Карпенка выпіў кавы з нейкай нікому невядомай журналісткай.

Пахаваны Генадзь Карпенка на мінскіх Усходніх могілках. Жонка Людміла і двое дзяцей у студзені 2002 года эмігравалі ў нямецкі горад Эслінген. У 2009 годзе ў памяць палітыка выйшла кніга „Хроніка марных спадзяванняў" (яе аўтары — Святлана Калінкіна, Аляксандр Коктыш і Аляксандр Тамковіч). Быў зняты дакументальны фільм «Дзень „Ч"». У памяць Генадзя Карпенкі грамадзянскай супольнасцю праводзіцца міні-футбольны турнір.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Дзеці інтэрнэту

Ёсць такі тып сучасных людзей, якіх я незалежна ад узросту назваў бы дзецьмі інтэрнэту. Гэта не толькі сучасныя дзеці, але і мае равеснікі, а нават старэйшыя за мяне людзі. Апошнія зусім не чытаюць кніг і газет і таму не ўмеюць думаць самастойна. Яны ўсе веды бяруць з інтэрнэту. Паводле прынцыпу «капіруй і ўстаўляй» абменьваюцца яны паміж сабою ссылкамі. Той тып людзей не ўмее слухаць іншых, таму што ён перакана
ны ў сваёй праваце. Такія людзі любяць напаўняць электронную пошту іншых усялякімі ссылкамі на сайты, навязваць сваю рацыю іншым. Сайты рэдагуюць людзі, якія лічаць сябе экспертамі па навуцы, гісторыі ці літаратуры, а насамрэч яны такія ж дзеці інтэрнэту, як іх інтэрнэтныя гледачы ці чытачы. Перакананасць у сваёй рацыі дзеці інтэрнэту чэрпаюць з вялікай колькасці праглядаў дадзенага сайта і як найбольшай колькасці каментарыяў. Зараз у інтэрнэце амаль кожны можа быць экспертам і мець сваю аўдыторыю ў дадзенай галіне, але не заўсёды гэтыя веды выцякаюць з іх вопыту і ўзроўню адукацыі. Дзеці інтэрнэту глытаюць веды з сеціва так як галодны чалавек танны фаст-фуд, каб наталіць свой голад на хвіліну. Таму па прычыне такога тыпу танных экспертаў інтэрнэт адцягвае мільёны (калі не мільярды) людзей ад кніг, газет. Таму кніг высокаадукаваных людзей, часта ўніверсітэцкіх выкладчыкаў, моладзь зусім не чытае. Чытаюць яны толькі танную сенсацыю, на аснове якой будуюць свае веды. Насамрэч у інтэрнэце ніхто не зможа праверыць усіх інфармацый. Людзі, якія не любяць чытаць кніг, газет, не ўмеюць самастойна думаць, таму асноўнай крыніцай ведаў лічаць толькі інтэрнэт. Зараз жывем у такі час, што інтэрнэт амаль у кожнага пад рукой. Не выходзячы з хаты, можам у інтэрнэце знайсці ўсё, як мая мама кажа, «і святое, і грэшнае». Толькі трэба мець свой розум, праз які, быццам праз рэшата, неабходна прасейваць гэтыя веды. А тое «рэшата» — гэта наш розум, наш вопыт, нашы веды і адукацыя, і нашае «я», якога не забярэ ніякі назіральнік, агент спецслужбы. Трэба ведаць як абараніць сваё «я» перад дзецьмі інтэрнэту. Прыкладам пратэсту проціў гэтай з'явы з'яўляецца тэкст песні «Nowy rozdział» польскай групы «Kombi», у якой вядомы аўтар тэкстаў Яцэк Цыган меў на думцы той тып людзей, якіх я называю дзецьмі інтэрнэту. Тэкст песні заклікае іх выйсці са свету інтэрнэту і пачаць самастойна думаць, а не паводзіць сябе паводле прынцыпу «капіруй і ўстаўляй».

**Юрка БУЙНЮК**



# 22.09 — 28.09

**(22.03. — 20.04.)** 22.09. будзеш вельмі адважны і кемлівы ў інтарэсах. Вернецца табе жывучасць і радасць жыцця. Будзеш гаваркі, кантактны, адных будзеш ашчасліўліваць камплiментамі, другіх не пашкадуеш і аблаеш. Але твая лагоднасць прынясе спрыянне іншых. Пільнуй дыету.

**(21.04.—21.05.)** 21-25.09.—радасць жыцця, фінансавыя поспехі. Добрыя пакупкі. Знакаміта ў прафесійных справах не толькі табе, але і тваім знаёмым; будзеш добрым дарадчыкам. Падвучыся, назбірай матэрыялаў — яны неўзабаве спатрэбяцца. Але 23-27.09. твая ашчаднасць можа перарадзіцца ў скупасць.

**(22.05. — 22.06.)** 23-25.09. сваімі мухамі ў носе дастанеш блізкіх. Але вернецца спакой духа. Спадабаюцца твае пачуццё гумару, запал і тая іскра ў воку. 21-25.09. малым накладам сіл здабудзеш відны поспех. Дакажаш усім, што можаш! Дай сабе больш часу на адбуманне рашэнняў.

**(22.06. — 23.07.)** 22-23.09. не задзірай з чыноўнікамі і не пазычай. Варта заініцыяваць новае мерапрыемства. Зверыфікуй думкі і дзеянні — некаторыя справы цягні далей, іншыя — пакінь. Глядзі наперад, у будучыню — яна ў святлейшых колерах! Але 24-28.09. не разлічвай на сяброў.

**(24.07. — 23.08.)** 22-26.09. станеш у абароне пакрыўджаных. Палепшыцца сітуацыя ў фірме. Знакаміты настрой, атачэнне мілых людзей. 27-29.09. адкрыеш, як многа маеш добрых сяброў. Расслабішся і будзеш цешыцца жыццём. Дасі шанц асобе, якая выкліча ў табе цяплынь у сэрцы, хаця можа гэта не князь ці князёўна з казкі.

**(24.08. — 23.09)** Мабілізуй сілы, здабудзеш тое, што хочаш. 22-25.09. моцны рост энергіі, сіла, каб перанесці магчымыя паразы. Аграмадная інтуіцыя, дзякуючы якой разбярэшся ў кожнай сітуацыі. Некаторыя справы кінеш, бо здадуцца табе малаважнымі. Пільнуйся на вуліцы і ў машыне.

**(24.09. — 23.10.)** Некалькі цікавых сустрэч. Маладзік 27.09. (да 29.09.) можа аказацца пачаткам супольнай дарогі. Рашэнні ад 26.09. (да 30.09.) могуць аказацца памылковымі. 23-27.09. можа найсці на цябе ахвота, каб схавацца ад свету і салідна адпачыць. У прафесіі — твой час, ацэняць цябе і прасунуць вышэй, дадуць кіраванне важным праектам. Нагоды для рамантычных сустрэч. Бярыся рэалізаваць свае найважнейшыя прафесійныя справы.

**(24.10. — 22.11.)** 23-25.09. дойдуць да цябе фальшывыя інфармацыі. Да 27.09. вернуцца справы, аб якіх хацелася б табе забыцца. Могуць цябе абшмараваць у сацсетках. Шыкуюцца большы выдаткі. Не злоўжывай сваёй перавагай над іншымі. Добрыя змены ў жыцці.

**(23.11. — 22.12.)** Схочацца прызнацца ў пачуццях старому сябру ці каляжанцы, але ці варта псаваць сяброўства? Калі выбіраешся ў новую школу, сустрэнуць цябе цудоўныя людзі. Не павучай шэфа! 27-29.09. маеш шанц з кімсьці пазнаёміцца. Восень прывітаеш з новай прычоскай і худзейшы, пачні займацца гімнастыкай.

**(23.12. — 20.01.)** 23-27.09. магчымае непаразуменне з супрацоўнікамі. Прапанова з 27-29.09. задаволіць твае амбіцыі. Сустрэнеш многа спрыяльных табе людзей, якіх парадамі варта пакарыстацца. Не пераборшчвай з трэнінгам.

**(21.01. — 19.02.)** 27-29.09. будзеш ведаць, як нават у прыгасаючых пачуццях запаліць агонь. Самотныя Вадалеі пабудуць далей адзінокімі, хаця можа і падабаецца табе быццё сінглам. 23-25.09. не пераборшчвай з лякарствамі. Добрыя вынікі на працы (але налягай на дакладнасць і цярплівасць) і кампанейскія поспехі. Вадалея-бізнесоўца заліе патоп паперак, або паклічуць яго ў падатковую інспекцыю. Можа, варта выбрацца ў падарожжа за мяжу? Пазбягайце спрэчак!

**(20.02. — 21.03.)** Пашырыш свае гарызонты, зловіш прафесійную нагоду. На рабоце захавай дыстанцыю і памяркоўнасць. Трэніруючы цела, на забывай пра мазгі, вучыся новаму — ніколі не запозна. З 26.09. выявяцца ў табе новыя таленты. З поспехам супрацьставішся несправядлівасці. Фундані сабе файнае падарожжа. А што! Але рэалізуй планы, якія патрабуюць адвагі і нават адчаю — гэтага ў цябе дастаткова!

— **Агата АРЛЯНСКАЯ**

# Адгаданка

**1.** пчаліная сям'я, **2.** раскідванне насення ў глебу, **3.** прылада для пісання атрамантам, **4.** партугальская сталіца, **5.** муж дачкі, **6.** работнік даглядаючы авечак, **7.** хімічны элемент н-р 53, **8.** можа быць клінковы, плаўлены, швейцарскі, карыцінскі, **9.** квадратны корань з дзевяці, **10.** дзяржава з Чарнігавам і Жытомірам, **11.** высокае вайсковае званне, **12.** частка абутку, пад якой жонка трымае ціхага мужа.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — народная пагаворка.

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | 1 | | | |
| | 2 | 3 | | | | | 4 | | | |
| | | 5 | 6 | | | 7 | | | 8 | 9 |
| | | | | | | | 10 | | | |
| | | 11 | | | 12 | | | | | |

**(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 34 нумара**

Бег, кніга, шпінат, душа, бульба, капуста, медаль, Ява, шакалад, Уфа.

Рашэнне: **Гні дубіну пакуль маладая**.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7⁰⁰ – 18⁰⁰.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**

BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład:** 1 000 egz.

# Даехалі на прэмію

Зранку дзень не задаўся. Неба было хмурае, пачынаў час ад часу імгліць дробны дождж, машыну прыпаркаваць ля аўтавакзала, куды прыехаў маршрутным бусікам Беласток — Гародня галоўны рэдактар тыднёвіка беларусаў у Польшчы „Ніва" Яўген Вапа, не ўяўлялася магчымым. Усё навокал было забіта легкавікамі і аўтобусамі, якія, здаецца, соўгаліся туды-сюды хаатычна і зусім без усялякай логікі, ды прыехалі на вакзал выключна для таго, каб не даць прыпаркавацца маёму «SEAT Alhambra» і сустрэць беластоцкага госця належным чынам, з уласцівай тут нам беларускай шчырасцю, з такой жа, як і яны там, у Беластоку, сустракаюць нас. Беларусы ў гэтым сэнсе практычна не адрозніваюцца па абодва бакі сённяшняй мяжы.

Ну і халера з імі, з тымі легкавікамі. Дасведчаны ў падарожжах Яўген Вапа хутка ўгледзеў маю тэхніку і ўжо седзячы ў салоне машыны лаканічна і хутка агучыў свае планы:

— Заўтра маю шмат спраў, таму мушу як мага раней патрапіць у Беласток. Квіток трэба купіць зараз, на першы ранішні аўтобус, каб была поўная яснасць. І адразу едзем у Менск. Хачу перад пачаткам урачыстасцей па ўручэнні прэміі імя Наталлі Арсенневай зрабіць яшчэ некалькі працоўных спатканняў. А то пасля не будзе часу. Адразу пасля ўручэння прэміі трэба вяртацца назад. Прывітанне, — нарэшце прывітаўся, не забыўся.



— Прывітанне, — рэагую на яго апошняе слова. — А можна яшчэ раз пра планы? Што ты там казаў пра вяртанне ў Беласток?

Яўген супакойваецца і цярпліва паўтарае сказанае раней, толькі ў разгорнутым варыянце. За гэты час мы паспяваем набыць квіток на зваротны шлях і такім чынам паставіць кропку ў планах на заўтра. На сённяшні дзень планы таксама больш-менш вядомыя. Бо гэта дзясятае верасня бягучага года. І ў гэты дзень вечарам, у Мінску, у кафэ „Грай" адбудзецца ўрачыстая цырымонія ўручэння прэміі імя Наталлі Арсенневай за найлепшую кнігу паэзіі 2019 года.

— Абодва нашы падляшскія аўтары, чые творы надрукаваныя выдаўцом Праграмная рада тыднёвіка «Ніва», Надзея Артымовіч і Міхась Андрасюк, патрапілі ў шорт-лісты літаратурных прэміяў. Міхал Андрасюк у прэмію імя Ежы Гедройца, — у захапленні ці то інфармуе, ці то хваліцца, але хіба найперш цешыцца «ніўскі» рэдактар.

Ён ад імя аўтаркі, якая па асабістых прычынах не змагла паехаць у Мінск, прыехаў прэзентаваць яе кнігу. У кароткі ліст адмысловае журы абрала тры найлепшыя на іх думку кнігі беларускай паэзіі. Гэта «Паручнік Пятровіч і прапаршчык Здань» Уладзіміра Арлова (Выдавецтва «Кнігазбор», Мінск), «Сарматыя» Марыі Мартысевіч (Выдавецтва «Янушкевіч», Мінск), і кніга ўжо ўзгаданай бельскай аўтаркі Надзеі Артымовіч «Краявід з невідочнай памылкай» (Выдавецтва «Праграмная рада тыднёвіка „Ніва"», Беласток).

Цешыцца такім поспехам Надзеі не толькі Яўген Вапа. Я даўно ведаю гэту паэтку асабіста і захапляюся яе творчасцю. Таму цешуся разам з ім. Даўно ведаю і Марціна Рэмбача — перакладчыка, які вершы Надзеі паклаў на польскую мову. Усё ў гэтай кніжцы. Ёсць чаму цешыцца.

Раптам шчаслівыя ўсмешкі спаўзаюць з нашых твараў, саступаючы месца выразу нечаканага здзіўлення. Пакуль мы набывалі квіток на захад, мая машына адмовілася рухацца на ўсход. Перакладаючы на нармальную мову гэта азначае, што яна перастала заводзіцца. Усе намаганні круціць стартар толькі канчаткова пасадзілі акумулятар. Праўду кажуць людзі, што як чалавек нешта плануе, то Бог смяецца.

Гэтым разам Бог смяяўся з нас нядоўга і прыслаў нам памагатых, якія хто пешшу, хто на ровары, хто на машыне, сабраліся на вакзале, каб запусціць рухавік маёй «Alhambra» з буксіра. Ну, гэта я ім насамрэч пазваніў і папрасіў дапамогі, тым памагатым. Вось так, з моцнага сяброўскага штуршка і рушылі мы ў сталіцу Беларусі. Хіба той штуршок станоўча паўплываў і на надвор'е, якое стала цяплець з кожным кіламетрам, праясняцца, і бліжэй да Мінска разумныя датчыкі маёй машыны паказвалі ўжо 25 з паловай градусаў па Цэльсію, а з неба ўсміхалася ласкавае сонейка. А праз вокны машыны заварожвала прырода ранняй беларускай восені, яшчэ зялёнай (жаўцізна і іншыя восеньскія колеры толькі злёгку кранулі яе), але ўжо задумлівай, рамантычнай і паэтычнай, як і сама імпрэза, на якую мы ехалі. І пахі...

Настрой таксама быў не менш паэтычны, ды і душа патрабавала паэзіі.

Мінскія працоўныя сустрэчы прайшлі хутка, як і час, адведзены на іх.

— Хутчэй ляцім у кафэ „Грай", — жартую я. — А то смяяцца з нас будуць, што мы выехалі з Гародні ранкам, а не паспелі на сем вечара.

Мы паспелі. Нават раней прыехалі, каб Яўген мог падрыхтавацца да прэзентацыі творчасці Надзеі Артымовіч. Ён для гэтага адмысловую флэшку прывёз. З запісамі. І правільна зрабіў. Да такога прыезду трэба рыхтавацца загадзя. А то тут багата знаёмых, якія хочуць пагаварыць, абмяняцца думкамі, меркаваннямі, або проста па-сяброўску прывітацца, што каб не падрыхтаваная загадзя прэзентацыя, то прыйшлося б папацець. А так прадстаўнік творчасці беларускай паэткі з Польшчы спакойна выкарыстаў патрэбны час на пераапрананне пад матылёк на шыі, вырашыў тэхнічныя пытанні з арганізатарамі і падпісаў кнігу ў Уладзіміра Арлова, якую некалькі гадзін да гэтага набыў у мінскай кнігарні разам з іншай беларускай літаратурай. Там ён заадно пацікавіўся, ці ёсць у продажы кнігі аўтараў з Беласточчыны. Вынікам застаўся задаволены напалову.




Злева: Уладзімір Арлоў, Марыя Мартысевіч, Яўген Вапа

Старт афіцыйнай часткі цырымоніі ўзнагароджвання даў паэт Усевалад Сцебурака. Па чарзе выходзілі на сцэну і самыя намінанты на прэмію, і вядомыя беларускія літаратурныя дзеячы, сярод якіх і кіраўнік Саюза беларускіх пісьменнікаў Барыс Пятровіч, і іншыя ўладальнікі гучных прозвішчаў. Чыталі вершы Наталлі Арсенневай, распавядалі пра цяжкую працу журы, якая з мноства вартых беларускіх паэтычных твораў мусіла выбраць напачатку меншы спіс, а пасля ўсяго трох намінантаў, якія іх найбольш уразілі. Зладзілі нават конкурс на адгадванне кнігі па вокладцы. Было цікава.

Неўзабаве назвалі і імя пераможцы. Ёй аказалася маладая беларуская паэтка Марыя Мартысевіч са сваёй «Сарматыяй».

— Дзякуй, — сказала Марыя ў сваім заключным слове.

Вядучы адзначыў, што гэта хіба самая кароткая прамова пераможцы, якую ён чуў.

Літаратары разыходзіцца не спяшаліся. Надалей дыскутавалі, аддавалі даніну павагі творчасці пераможцы і іншых намінантаў. Гаварылі пра беларускую паэзію і ўвогуле пра творчасць...

Сустрэчы, планы, развагі, погляды, спадзяванні, рукапацісканні, абдымкі...

Але развітвацца ўсё ж трэба. Тэхнічныя клопаты не адпускалі нас аднак да канца. Аказалася, што ўсе здымкі, якія з такой зацятасцю стараўся я зрабіць на ўрачыстасці, проста не запісаліся ў фотаапараце. Што адчуваў і гаварыў ніжэй падпісаны ў гэты момант, лепш не ведаць «ніўскім» чытачам.

Назад мой «SEAT Alhambra» вёз нас ужо ноччу. Завёўся добра, з першага разу. Давёз. Не завёўся ўжо толькі назаўтра. Як аказалася, здох акумулятар. Рассыпаўся ўсярэдзіне ў парашок. Рамонтнік вельмі здзівіўся, як ён і так адслужыў нам у папярэдні дзень. Але, відаць, дзень быў такі, што адслужыць было трэба. Нават праз сілу.

Крыўдна, вядома ж, што такую вялікую ўрачыстасць не праводзіць беларуская дзяржава, ці хаця б яе прадстаўнікі ад культуры, якія хіба што мусілі б хоць з'явіцца ды павіншаваць намінантаў і пераможцу. Цікава, якую яны культуру прасоўваюць у масы? Ну ды іх справа. Можа і добра, што не яны прыходзяць. Неяк самі справіліся. Дарэчы, арганізатарамі гэтай урачыстасці і без перабольшвання знакавай падзеі ў жыцці беларускага літаратурнага асяродка сталі Беларускі ПЭН-цэнтр, Саюз беларускіх пісьменнікаў і Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына». Узнагарода ўручалася пры падтрымцы Фонда культуры і адукацыі Орса-Рамана і Харытатыўнага фонду Згуртавання беларусаў Вялікабрытаніі.

Ну а мы з Яўгенам Вапам, пад уражаннем таго, што адбылося, усю дарогу назад да Гародні дыскутавалі пра лёс беларускай літаратуры на Падляшшы і ў самой Беларусі, і ўвогуле пра лёс Беларусі і беларусаў... І пра мінулы, і пра сённяшні, і пра будучы...

Чарговы раз прыйшлі да даўняй высновы — на ніве беларушчыны трэба дзеіць, змагацца, пісаць, выдаваць, працаваць...

А неўзабаве будзе чарговая літаратурная ўрачыстасць. Гэтым разам сябе ў поўным ззянні пакажа проза. І на ёй адным з намінантаў таксама будзе аўтар з Беласточчыны. Гэта Міхась Андрасюк са сваёй ужо нашумелай «Поўняй», якая як і «Краявід з невідочнай памылкай» Надзеі Артымовіч выйшла ў выдавецтве «Праграмная рада тыднёвіка „Ніва"» ў Беластоку.

Пажадаем яму поспехаў!

**Віктар САЗОНАЎ**

ISSN 0546-1960 38